ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 13 28 сакавіка 1996 г.
(2467) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ПАЛІТЫЧНЫ КРЫГАХОД



**Вясна ў Беларусі наступае. Вось-вось уздымуцца рэкі і выйдуць з берагоў. Падрыўныя брыгады ўзрываюць лёд каля мастоў. Каб не здарылася бяды...**

**А ў нашым грамадстве ўжо пачаўся вясновы разлом. Напалу страсцей у Беларусі дадала пастанова расійскай Думы аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў, зробленая 15 сакавіка. Нашы левыя і крайне левыя ўспрынялі гэта як пачатак акцыі: "Назад -- у СССР". І вывелі 17 сакавіка на сталічны праспект Машэрава пад савецкімі сцягамі на мітынг каля паўтары тысячы сваі[...]днадумцаў.**

**А дэмакратычныя сілы сабралі 15 сакавіка на плошчы ля [...]нага тэатра больш за 10 тысяч удзельнікаў мітынгу ў абарону Канстытуцыі Беларусі і ў абарону *незалежнасці нашай дзяржавы.***

**Палітычны крыгаход пачаўся. Дай Бог, каб цярпенне не выйшла з берагоў і грамадства апанавала мудрасць і развага.**



## *ПАМЯЦІ ІВАНА ЛАСКОВА*

# У ШТО ЎКЛАДЗЕНА ДУША...

Нам, сённяшнім, згубіўшым саміх сябе, яшчэ давядзецца (калі, канешне ж, прачнецца на тое душа) вучыцца ў такіх, як Іван Ласкоў. Яны, Ласковы, апярэдзілі млявую чаргу да дэмакратыі, да змен у жыцці. І не толькі таму, што вызначаліся сярод іншых геніяльнасцю ці таленавітасцю. Ёсць агромністы атрад паэтаў, чые вершы ўражваюць глыбей, чым творы Івана Ласкова. Хаця і гэта не зусім, мажліва, правільна. Нельга параўноўваць талент. Нельга ўсё абагульняць і, карыстаючыся рознымі сістэмамі вымярэння, імкнуцца прыйсці да ісціны. Я ж хачу сказаць, што ёсць больш бліскучыя таленты ў паэзіі, у гістарычных сцвярджэннях... А ёсць яшчэ і Асобы. Асобы праз усё жыццё, Асобы ў літаратуры. Сумленныя, няздольныя да хлусні і прыстасавальніцтва.

Памятаю яго ў пярэдадзень ягонага пяцідзесяцігоддзя. Першага і адзіна магчымага юбілею нашага суродзіча. У Якуцку дату ўрачыста не заўважылі. На Беларусі -- не ўспом[...] калі не лічыць артыкулаў у "Чырв[...]змене" і "Гомельскай праўдзе". [...]е дзіўна. Добра (і ў дачыненні да чаго гэта слова!), што зауважылі смерць... Тры кароткія сустрэчы прыкладна за год, тры доўгія размовы, паст[...]ае адчуванне недагаворанасці. [...]жды -- развагі сам-насам пра магутную, руплівую, духоўна стваральную энергію гэтага маленькага, падобнага на падлетка чалавека. Відавочна, Іван Антонавіч не дужа звяртаў увагу і на сваю знешнасць. Танныя акуляры з тоўстым шклом. Сціплы касцюмчык. Няновая кашуля. Мо дзесяцігадовага ўзросту балонневая куртка. Тады, позняй восенню 1990-га, мне падалося, што яму ўсё роўна -- дождж на вуліцы, жорсткі пранізлівы вецер, холад. Яму, у адрозненне ад нас, цёпла.

Пры тых сустрэчах было зусім не да роспытаў. І шкада. Іншых сустрэч ужо не было. А тады, увосень, гутарылі пра гістарычныя, мовазнаўчыя росшукі Івана Ласкова. Памятаю, як пры жыцці пісьменніка заакадэмізаваныя навукоўцы пасмейваліся з "нацягнутых", як яны мерквалі, высноў літаратара. Што ж, і Мікола Ермаловіч усё яшчэ па вялікаму рахунку не прызнаны і не ўшанаваны. Як не зразумеюць тыя навукоўцы, што найгалоўнае ў жыцці -- пошук, імкненне да адкрыццяў. Ісціны не друкуюць па загадзя выпрацаваных адміністрацыйных пастановах...

Дзяцінства Івана Ласкова пачалося з вайны. У апошнім выданні даведніка "Беларускія пісьменнікі" пра нараджэнне зусім сцісла: "Іван Антонавіч Ласкоў нарадзіўся 19.6.1941 у горадзе Гомелі ў сям'і рабочага". А ўсё наступнае -- дзяцінства, юнацтва -- уклалася яшчэ ў адзін радок: "У 1953—1958 гг. выхоўваўся ў Магілёўскім спецыяльным дзіцячым доме". Што за радком?

"...Вы пытаецеся, што мяне звязвае з Краснапольшчынай. Гэта фактычна мая радзіма. Сюды мае продкі пераехалі з Міншчыны ў 1914 годзе. Адсюль мая маці ў канцы 20-х гадоў паехала ў Гомель на пошукі долі. Тут яна двойчы выходзіла замуж, другі раз за майго бацьку. Ён быў з Украіны, уцёк ад голаду 1933 года. (Біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі" ўдакладняе: "Бацька, Ласкоў Антон Іванавіч, украінец з Палтаўшчыны, земляроб... Працаваў на гомельскай цукеркавай фабрыцы "Спартак". -- **А.К.**). Я нарадзіўся ў Гомлі, але вясной 1942 года маці разам са мной збегла ад немцаў назад, на Краснапольшчыну, дзе жыла яе маці, мая бабка, сёстры, браты ж былі на вайне. У вайну мой бацька прапаў без вестак, а дом у Гомлі згарэў. Таму маці пасля вайны вяртацца ў Гомель пабаялася: там было галодна і не было дзе жыць". **(З ліста І.Ласкова аўтару).**

Дзяцінства настроіла на выпрабаванні. Вайна таму прычынай. Ласкоў, бязбацькавіч, не задаволіўся тым, што выжыў. Як быццам наўмысна пачаў жыць, змагацца за жыццё насуперак нягодам. З-за таго, што нешта важнае, звычайнае, будзённашчаслівае ў яго адабралі. Ці адны тут гены -- найгалоўнейшыя заканадаўцы? Пытанне як загадка. Дзейная асоба заўжды таямніца. Іван Ласкоў хіба што толькі зразумелы ў адным: у неспатольным жаданні працаваць.

**(Працяг на 6-й стар.).**

# ЭВАЛЮЦЫЯ ІДЭІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## Ў ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯЎ

Паводле бальшавіцкай расійска-імперскай канцэпцыі гісторыі Беларусі беларускі народ ніколі ў сваёй дасавецкай гісторыі не меў дзяржаўнасці. Пытанне аб Полацкім і іншых княствах, што існавалі на тэрыторыі Беларусі ў IX--XIII стагоддзях, закрывалася надуманым тэзісам аб існаванні ў той час на ўсёй усходнеславянскай прасторы "адзінай цэнтралізаванай старажытнарускай дзяржавы". Пазнейшыя стагоддзі -- часы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ) і Рэчы Паспалітай -- характарызаваліся як эпоха літоўска-польскага прыгнёту на Беларусі і барацьбы беларускага народа за "ўз'яднанне" з "вялікім рускім народам" пад скіпетрам вялікіх князёў маскоўскіх і цароў расійскіх. Шматлікія агрэсіўныя войны гэтых дэспатаў з ВКЛ і Рэччу Паспалітай за Беларусь ацэньваліся таксама адназначна -- як вызваленчыя ў адносінах да беларускага народа.

Прарасійска-імперская канцэпцыя айчыннай гісторыі прадвызначыла адпаведныя адносіны беларускай савецкай гістарыяграфіі да грамадскіх рухаў на Беларусі, накіраваных супраць расійскага царызму. Так, цалкам замоўчвалася паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. Груба скажалася грамадска-палітычная сітуацыя ў Беларусі ў час франка-расійскай вайны 1812 года, рэакцыя на яе мясцовага жыхарства. Сама вайна для Беларусі, як і для Расіі, абвяшчалася "айчыннай". Вельмі скупа, павярхоўна і схематычна паказвалася паўстанне 1830--1831 гадоў. З усіх вызваленчых рухаў у "расійскі перыяд" беларускай гісторыі толькі паўстанне 1863--1864 гадоў і дзейнасць К.Каліноўскага атрымалі адносна поўнае асвятленне. Але і тут не абышлося без істотных замоўчванняў і скажэнняў, асабліва пазіцый Каліноўскага па нацыянальным пытанні.

Тэма беларускага нацыянальнага руху, змагання за дзяржаўнасць Беларусі знаходзілася фактычна пад забаронай. У дачыненні да Беларускай сацыялістычнай грамады, яе стваральнікаў і лідэраў, перыядычных выданняў ("Наша ніва") савецкая цэнзура прапускала ў друк толькі негатыўныя ацэнкі. Стэрэатыпнымі сталі абвінавачанні іх у буржуазным нацыяналізме, у контррэвалюцыйнасці (нават на этапе барацьбы з царызмам), рэакцыйнасці, антынароднай дзейнасці і г.д.

На пераломе 80-х -- 90-х гадоў беларускія гісторыкі (не ўсе, вядома) адкінулі адзначаныя фальсіфікатарскія ўстаноўкі, як і ў цэлым бальшавіцкую, расійска-імперскую канцэпцыю нашай гісторыі. Паступова ў беларускай гістарыяграфіі і ў гістарычнай адукацыі сцвярджаецца нацыянальна-дзяржаўная канцэпцыя, якая грунтуецца на прызнанні факта шматвяковага існавання самастойнага беларускага этнасу як суб'екта гісторыі з сваімі ўласнымі сацыяльна-эканамічнымі, дзяржаўна-палітычнымі і культурнымі інтарэсамі. У сувязі з гэтым пераасэнсоўваецца гістарычны шлях нашага народа -- праблемы этнагенезу, станаўлення і развіцця дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, рэлігійна-царкоўнага жыцця, узаемадачыненняў з суседнімі і больш далёкімі народамі і краінамі, вызваленчай барацьбы, аднаўляецца гістарычная праўда пра многія падзеі і постаці беларускай мінуўшчыны.

**(Працяг на 4-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВАКОЛ ВІСКУЛЁЎ*

### СНД ДАКАЗАЛА СВАЮ ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНАСЦЬ

"Рашэнне Дзяржаўнай думы Расіі, якая прагаласавала за адмену парламенцкай ратыфікацыі Белавежскіх пагадненняў, прадыктавана, мяркуючы па ўсім, неадкладнымі палітычнымі меркаваннямі". Так у гутарцы з карэспандэнтам газеты "Рэспубліка" ацаніў сенсацыйную навіну з Масквы выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня.

Гэты крок яўна разыграны па няпісаных правілах перадвыбарчай барацьбы і разлічаны ў першую чаргу на прапагандысцкі вынік.

У Садружнасці паступова набіраюць сілу інтэграцыйныя працэсы, падкрэсліў выканаўчы сакратар СНД. На жаль, адбываецца гэта не так хутка, як хацелася б, але і фарсіраваць іх наўрад ці будзе разумным. Пошук новых форм і прынцыпаў узаемавыгаднага супрацоўніцтва дзяржаў ужо прыносіць свой добры плён.

За чатыры гады існавання Садружнасць даказала сваю жыццяздольнасць і гатоўнасць да ўдасканальвання і ўліку інтарэсаў усіх дзяржаў, што ў яе ўваходзяць, адзначыў Іван Каратчэня.

### КУДЫ ДАРОГА

-- Рашэнне Дзяржаўнай думы Расіі дэнансаваць Белавежскія пагадненні з'яўляецца сведчаннем таго, што рана ці позна народы ўсяго былога СССР прыйдуць да той ці іншай формы яднання, -- сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА першы намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Валерый Цапкала.

Па словах В.Цапкалы, формы і ступень інтэграцыі будуць непасрэдна залежаць ад надзённых эканамічных, стратэгічных, а таксама геапалітычных інтарэсаў дзяржаў, якія некалі ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза.

*ЦІСК НА ПАРЛАМЕНТ*



20 сакавіка аднавілася пленарнае пасяджэнне першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі трынаццатага склікання. Уверцюрай да яго стала дэманстрацыя левых у выглядзе пікета. Мэта гэтай акцыі адлюстравана на плакатах.

*З РЭЗІДЭНЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА*

### АБ'ЯДНАННЕ ПРАДЫКТАВАНА ЧАСАМ

18 сакавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка запрасіў у рэзідэнцыю кіраўніка дзяржавы шэраг вышэйшых службовых асоб рэспублікі для абмеркавання важных палітычных і сацыяльна-эканамічных праблем, якія датычаць унутранай і знешнепалітычнай сітуацыі.

На нарадзе, у якой прынялі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мяснікові, дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, віцэ-прэм'еры ўрада і работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, абмяркоўваліся пытанні беларуска-расійскай інтэграцыі.

Удзельнікі нарады абмеркавалі канцэпцыю дагавора аб стварэнні беларуска-расійскага саюза, які маюць намер падпісаць прэзідэнты Беларусі і Расіі ў канцы сакавіка або пачатку красавіка гэтага года.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што вядомае рашэнне Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі можа паскорыць працэс яднання Беларусі і Расіі, іх народаў, які ініцыіравала сумленная і шчырая палітычная воля прэзідэнтаў гэтых дзяржаў.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што аб'яднанне народаў на раўнапраўнай, цывілізаванай аснове прадыктавана самім часам. Спыніць яго немагчыма. Цяпер важна аб'яднаць усе разумныя палітычныя сілы Беларусі і Расіі, якія гатовы аказаць садзейнічанне двум прэзідэнтам у выпрацоўцы гэтых напрамкаў і выпраўленні памылак мінулага.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка рэкамендаваў Вярхоўнаму Савету разгледзець на пленарным пасяджэнні пытанне паскарэння інтэграцыі Беларусі і Расіі ў кантэксце пастановы, прынятай Дзяржаўнай думай Расійскай Федэрацыі.

Аляксандр Лукашэнка выказаў сваю гатоўнасць прыняць удзел у пасяджэнні Вярхоўнага Савета, калі беларускі парламент падтрымае прапанову Прэзідэнта, паведамілі ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

### АСАБІСТАЯ ТРАГЕДЫЯ ПРЭЗІДЭНТА

-- Пастанова Дзяржаўнай думы Расіі аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў стала для мяне асабістай трагедыяй, -- заявіў на праведзенай 20 сакавіка сустрэчы з кіраўніцтвам Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір" і дырэктарамі яе нацыянальных прадстаўніцтваў у краінах СНД Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. -- З аднаго боку, усім вядомы мае намаганні, накіраваныя на больш цесную інтэграцыю дзяржаў Садружнасці, і я, па ідэі, павінен быў бы радавацца рашэнню расійскай Дзяржгдумы. Аднак я балюча ўспрыняў гэту сітуацыю, таму што ў нас з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным таксама ёсць аб'яднальныя планы і мы ўжо нямала зрабілі ў гэтым напрамку.

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

### КАМУ І ЯК БАЧЫЦЦА БУДУЧЫНЯ

Беларускія і расійскія дэпутаты дагаварыліся аб стварэнні сумеснай міжпарламенцкай групы па падрыхтоўцы заканадаўчых актаў у галіне эканомікі. Такі галоўны вынік візіту беларускіх парламентарыяў у Дзяржаўную думу Расійскай Федэрацыі. Аб гэтым паведаміў 18 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце кіраўнік дэлегацыі намеснік спікера Генадзь Карпенка.

Паводле слоў Генадзя Карпенкі, бакі пакуль што не зрабілі значных крокаў наперад з пункту гледжання эканамічнай інтэграцыі.

Сустрэчы ў Маскве паказалі, адзначыў Генадзь Карпенка, што парламенцкія фракцыі па-рознаму бачаць будучыню беларуска-расійскіх узаемаадносінаў. Калі, напрыклад, "Наш дом -- Расія" і "Яблык" выступаюць за цесныя эканамічныя кантакты, заходзячы з дзяржаўнасці дзвюх краін, то ў камуністаў больш далёкасяжныя планы: ад эканамічнай інтэграцыі -- да палітычнага і ваеннага саюза.

*СУСТРЭЧА Ў СПІКЕРА*

### ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

Так можна сказаць пра людзей, якія сабраліся на сустрэчу ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 15 сакавіка.

У гэты ўрачысты дзень, калі наша рэспубліка а[illegible]на-чала другую гадавіну з дня прыняцця новай К[illegible]і-туцыі, кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі п[illegible]яў групу былых кіраўнікоў рэспублікі, чыя палітычная і грамадская дзейнасць на працягу дзесяцігоддзяў была непарыўна звязана з гісторыяй Беларусі. Сярод іх -- старшыні Вярхоўнага Савета мінулых скліканняў Іван Шамякін, Іван Навуменка, Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Георгій Таразевіч, старшыні Савета Міністраў Аляксандр Аксёнаў, Міхаіл Кавалёў, Вячаслаў Кебіч, іншыя вядомыя дзеячы.

Павіншаваўшы гасцей са святам, Сямён Шарэцкі адзначыў, што з прыняццем Асноўнага Закона, які абвясціў вышэйшай каштоўнасцю чалавека, Рэспубліка Беларусь паднялася на больш высокую ступень дзяржаўнага будаўніцтва і дэмакратычных пераўтварэнняў, што ў новай Канстытуцыі ўлічаны ўсе лепшыя напрацоўкі папярэдніх пакаленняў заканадаўцаў і палітыкаў. Асаблівыя словы падзякі Сямён Шарэцкі выказаў у адрас непасрэдных яе стваральнікаў -- кіраўнікоў Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання Мікалая Дзямянцея, Станіслава Шушкевіча, Мечыслава Грыба.

На думку спікера парламента, для таго каб пабудаваць сацыяльна-прававую дзяржаву, неабходна правесці вялікую работу па напаўненні канкрэтным зместам закладзеных у Канстытуцыі прынцыпаў.

*КАРЭЛІЦКІ КРАЙ*



Экспазіцыя "Зямля і людзі" Карэліцкага краязнаўчага музея размясцілася ў васьмі залах і налічвае каля тысячы экспанатаў. Яе бачылі многія наведвальнікі з розных месцаў Беларусі, госці з Англіі, ЗША, Польшчы. А ўсяго ў запасніках музея больш пяці тысяч прадметаў, кніг, асабістых рэчаў, дакументаў, што расказваюць аб мінулым і сучасным прынёманскага краю. Вось і думаюць дырэктар музея Вольга МАРОЗ (справа) і галоўны захавальнік фондаў Тацццяна ВАРАБЕЙ, як узбагаціць ужо дзеючую экспазіцыю.

*ЧАЛАВЕК НА СВАІМ МЕСЦЫ*



Да службы ў арміі Барыс МЯШАНАЎ працаваў у саўгасе "Шлях Ільіча" Буда-Кашалёўскага раёна. Адслужыў і вярнуўся ў родныя мясціны. Не шукаў шчасця ў горадзе, як многія яго равеснікі. І не шкадуе: праца на жывёлагадоўчай ферме яму па душы. А гэта ж галоўнае для чалавека -- знайсці сваё месца.

*АД ФОНДУ СОРАСА*

### МІЖНАРОДНАЯ ЮРЫДЫЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА

У фондах гэтай бібліятэкі, адкрыццё якой адбылося 14 сакавіка, створанай намаганнямі Беларускага фонду Сораса, Саюза юрыстаў рэспублікі і Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў, налічваецца каля 2 тысяч тамоў. У прыватнасці, тут сабрана найноўшая і класічная літаратура па ўсіх галінах права краін Паўночнай Амерыкі, Заходняй Еўропы.

Апроч таго бібліятэка мае сучасныя камунікацыйныя сродкі, якія дазваляюць атрымаць неабходную юрыдычную інфармацыю амаль ва ўсіх вядучых бібліятэках свету. Грошы на стварэнне бібліятэкі ў суме каля 90 тысяч долараў выдзеліў Беларускі фонд Сораса.

*ПРЫЗВАННЕ*

Ганна КІР'ЯНАВА (на здымку) -- актрыса Беларускага тэатра "Лялька" ў Віцебску. Ужо 7 гадоў працуе яна тут. Сваё майстэрства і ўменне перадае выхаванцам гуртка пры абласной станцыі юных тэхнікаў.



*ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

### НАПАДАЮЦЬ ЧАСЦЕЙ НА БЕЛАРУСАЎ

Апошнім часам у Польшчы пачасціліся выпадкі разбойнага нападу на замежных грамадзян. У прыгранічных з Беларуссю раёнах ахвярамі такога нападу часцей за ўсё становяцца беларускія грамадзяне. Аб гэтым паведаміў БЕЛТА Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў.

Ва ўзнікшай сітуацыі Беластоцкая ваяводская камендатура паліцыі распаўсюдзіла спецыяльную памятку, якую апублікавалі мясцовыя газеты. Паліцыя рэкамендуе тым, хто прыязджае ў Польшчу:

-- не браць у аўтамашыны выпадковых людзей;

-- спыняцца толькі па патрабаванню супрацоўнікаў паліцыі ў адпаведным абмундзіраванні, а ў начны час -- тых, хто знаходзіцца ў службовых аўтамабілях з надпісам "Паліцыя";

-- спыняцца толькі ў спецыяльна адведзеных для гэтага грамадскіх месцах;

-- аб існуючай небяспецы неадкладна паведамляць сустрэчным паліцэйскім патрулям;

-- у выпадку ўчынення злачынства неадкладна паведамляць у органы ўлады або бліжэйшае аддзяленне паліцыі.

Некалькі спецыфічных парад сваім суграмадзянам дае сам Генеральны консул. Адна з іх:

-- не размаўляйце гучна на роднай мове, бо гэта прываблівае грабежнікаў.

ПЕРАСЯЛЕНЦЫ: ЧАС І ЛЁС

# СВЕДКІ І СВЕДЧАННІ

Адной з самых чорных старонак у гісторыі сібірскага Беластока сталі 1937--1938 гады. Аб трагедыі яго жыхароў у тыя сумна вядомыя часы даведаўся я, слухаючы ўспаміны відавочцаў. Пазней да гэтага дабавілася многае з прачытаных матэрыялаў у архівах пракуратуры і дзяржбяспекі.

1937-мы год для беластоцкіх жыхароў пачынаўся звычайнай чарадой сялянскіх клопатаў, для большасці гэта быў другі год пасля калектывізацыі. Першы год калгаснага жыцця прайшоў нібыта і не так дрэнна: атрымалі някепскі ўраджай, ад якога засталося тое-сёе і на працадні. Думалася, што наперадзе ўжо не будзе больш такіх жахаў, якія адбываліся ў вёсцы ў сакавіку-красавіку 1935 года пры стварэнні калгаса. Аднак становішча навокал гаварыла пра адваротнае. Усё часцей сталі прыходзіць паведамленні аб "шкодніцкай" дзейнасці і арыштах органамі НКУС людзей вядомых і радавых. Папаўзлі трывожныя чуткі аб росце арыштаў "па лініі НКУС" у Крывашэінскім раёне Заходне-Сібірскага краю.

13 жніўня 1937 года прайшлі першыя арышты і ў Беластоку. Бадай, нечаканасцю стала толькі тое, што ў ліку арыштаваных былі людзі вядомыя і паважаныя начальствам, якія яшчэ ўчора самі гаварылі абвінаваўчыя прамовы супраць "ворагаў народа" на калгасных сходах і ў сельсавеце.

Арыштавалі дырэктара школы Пятра Чырвонага, старшыню калгаснага праўлення Васіля Дашука, а таксама настаўніка Паўла Барысаўца, загадчыка гаспадаркі школы Мікалая Карэліна і двух калгаснікаў: брыгадзіра Фелікса Міхню і сямідзесяцітрохгадовага старога Фелікса Іоча. Сын Чырвонага Уладзімір, якому тады было дванаццаць гадоў, пра той час расказаў наступае:

"Арыштавалі бацьку раніцай. Пачалі рабіць вобыск і закончылі толькі к абеду. Забралі дзве стрэльбы, нож паляўнічы, многа бацькавых кніг, перапіску бацькі са сваімі бацькамі і сястрой з Польшчы (Гродзенскай губерні). Сястра бацькі ў горадзе Навагрудку выйшла замуж за пажарніка-афіцэра і прыслала нам вясельную фатаграфію на памяць. І гэта фота забралі, відавочна, для доказу сувязі бацькі з польскімі афіцэрамі... Бацьку забралі, і больш мы яго не бачылі і не ведалі пра яго нічога..."

Па-рознаму ўспрымалі ў вёсцы першыя арышты. Большасць жыхароў да жонак і дзяцей "ворагаў народа" аднесліся са спачуваннем, дапамагалі чым маглі. І ўсё ж для членаў сямей арыштаваных настаҵі цяжкія часы. Сям' ю Чырвонага адразу ж са школьнага інтэрната выгналі, і яны вымушаны былі туліцца ў адной з пустых хацін. Відаць, з-за таго, што адсутнічалі настаўнікі, яго жонку адразу з работы не звольнілі, але большасць педагогаў з-за апасення, каб чаго не выйшла, перасталі з ёю дружыць і нават размаўляць. Адзін з сямікласнікаў моцна збіў яе сына Валодзю, і той некалькі месяцаў прахварэў і не наведваў школу. Вясной адразу пасля сканчэння навучальнага года яны назаўсёды пакінулі Беласток.

Марыю Дашук пасля арышту мужа выклікалі ў сельсавет і сказалі, каб яна з дзецьмі рыхтавалася да ссылкі. Пасля такіх папярэджанняў уся сям'я сушыла сухары і кожны дзень, трасучыся ад страху, на працягу некалькіх месяцаў чакала вырашэння свайго лёсу. Аднак Дашукоў не саслалі, сям'я "ворага народа" засталася на месцы. Жонка настаўніка Барысаўца была родам з суседняй Вазнясенкі і адразу ж пасля арышту мужа перабралася да сваіх бацькоў.

Але ўсё ж, расказваючы аб спачуванні і дапамозе няшчасным жанчынам з боку большасці жыхароў, варта адзначыць, што былі і такія, хто арышты аднавяскоўцаў адкрыта адабраў, асабліва ў прысутнасці якога-небудзь начальства. Нехта з іх, відаць, наіўна верыў у размовы аб тым шкодніцтве сваіх суседзяў, нават сяброў, а хто вернападданніцкімі словамі спадзяваўся адвесці падобную бяду ад сябе і сваіх сем'яў.

Як успаміналі старажылы вёскі, падобным чынам павёў сябе мясцовы актывіст, наш зямляк Іосіф Назарук. Працуючы прадаўцом сельпо, ён усякі раз пры сустрэчы з жонкамі арыштаваных не ўпускаў выпадку нагадаць ім пра мужоў -- "ворагаў народа". Неаднаразова на сходах і проста ў размовах заяўляў, што "пасля арышту "ворагаў народа" ў вёсцы стала лягчэй дыхаць". Але не дарэмна народ гаворыць, што "на няшчасці іншых уласнага дабрабыту не захаваеш". Не дапамаглі Іосіфу Назаруку прынародныя клятвы-запэўніванні ў любові да "бацькі народаў" і яго любімага дзецішча -- НКУС. 21 кастрычніка 1937 года прыйшлі і па яго людзі ў форме...

За дзень да арышту Назарука ў Беластоку забралі Івана Лютага, Блажэя Грыка, Вікенція Смоліча і былога настаўніка па працы сельскай школы Васіля Мазжэрына. Іван Люты быў у ліку тых васьмі беластокцаў, над кім яшчэ ў красавіку 35-га года пры стварэнні ў вёсцы калгаса ўчынілі паказальны суд. Атрымаў ён тады з усіх васьмі невялікі тэрмін --- тры гады лагераў. Прасядзеў у лагеры з трох атрыманых гадоў усяго трынаццаць месяцаў, за прыкладныя паводзіны і ўдарную працу быў датэрмінова вызвалены. А дома праз некалькі месяцаў зноў пад арышт...

Вікенцій Смоліч, 71-гадовы калгаснік, быў з былых раскулачаных спецперасяленцаў, сасланых у 1929 годзе з-пад Мінска ў Нарымскі край. Да моманту арышту жыў у Беластоку ўдваіх з жонкай Ганнай. Яго старэйшы сын Вітольд, які працаваў у пачатку трыццатых гадоў сакратаром сельсавета, паехаў з вёскі і ўладкаваўся бухгалтарам на заводзе ў Краснакамску. Пакінула бацькоўскі дом і малодшая дачка Марыя (цяпер жыве ў Томску), выйшаўшы замуж за школьнага настаўніка Дутчанку.

Апошнія два месяцы 1937 года прайшлі для нашых землякоў даволі спакойна: больш з вёскі работнікі раённага НКУС нікога не ўзялі. Відаць, як і ва ўсякай савецкай арганізацыі, што працуе па плану, раённае кіраўніцтва НКУС падлічвала вынікі сваёй дзейнасці і, трэба меркаваць, рапартавала ў Нарымскі акруговы аддзел НКУС аб высокіх паказчыках, дасягнутых у барацьбе з "ворагамі народа". Пра тое, што гэтыя паказчыкі былі значнымі, можна меркаваць на падставе таго, што ў 1937 годзе былі арыштаваны ў Крывашэінскім раёне многія савецкія і партыйныя кіраўнікі раённага і мясцовага маштабу. Дзесяткі настаўнікаў і служачых, калгаснікаў і аднаасобнікаў, былых спецперасяленцаў і "крыштальна чыстых" перад Савецкай уладай у гэты страшны для ўсёй краіны год былі расстраляны альбо "планава перасelены" ў ГУЛАГ.

У прыватнасці, на 1937 год прыпадае 62 працэнты ўсіх рэпрэсіраваных у 30-я гады на тэрыторыі Заходне-Сібірскага краю. Прычым працэнт рэпрэсіраваных сярод нашых землякоў даходзіў да 80-ці.

Наступны 1938 год "паглынуў" 10 працэнтаў рэпрэсіраваных у 1937--1938 гадах, 76 працэнтаў былі прыгавораны да расстрэлу, 17 працэнтаў -- да 10 гадоў лагераў. Думаецца, што Крывашэінскі раён, дзе пражывала больш за 30 працэнтаў ураджэнцаў Беларусі, ва ўсіх адносінах не адхіляўся і ад гэтых паказчыкаў. Аднак для Беластока 1937 год з'явіўся толькі "прэлюдыяй" да будучай трагедыі большасці яго жыхароў, якая адбылася ў пачатку наступнага 1938 года.

14 студзеня 1938 года ў Беластоку зноў аднавіліся арышты. Арыштавалі Тадэвуша Шымаоўскага, Аляксандра Іоча, Станіслава Пронскага і Франца Мазюка.

У сям'і Антона Іоча было 9 дзяцей. Надзеі, яго дачцэ, арышт бацькі запомніўся ў такіх падрабязнасцях: "Тату прыйшлі арыштоўваць настаўнік наш Юкляеўскі і яшчэ нехта. Мама хворая ляжала і падняцца з ложка не магла. Яна незадоўга да гэтага дачку, сястру нашу малодшую, нарадзіла. Сталі пытацца ў бацькі, з кім ён перапісваецца і ці ёсць пісьмы. Ён адказаў, што ў яго сын Антон у Томску, дачка Соф'я ў фармацэўтычным вучылішчы там вучыцца. Другая дачка Марыя ў Калпашове ў педвучылішчы вучыцца, астатнія дзеці ўсе маленькія, а больш ён ні з кім не перапісваецца. Потым бацьку загадалі ўзяць кубак з лыжкай ды пару чыстай бялізны і павялі. Толькі пасля гэтага мы спахапіліся, што бацька пайшоў у старой парванай фуфайцы і зусім галодны. Вось мама мне і гаворыць: "Дачушка, вазьмі кавалак сала ды кажух і занясі бацьку, папрасі перадаць".

Узяла я ўсё гэта і да народнага дома пабегла, а да яго нават блізка не падпускаюць. Стаю і плачу. Але вось бачу, што бацьку з сельсавета вядуць у народны дом. Кінулася я да яго, але мяне адзін з канваіраў так піхнуў, што я як мячык убок адляцела, але ўсё ж перадаць бацьку кажух і сумачку з салам я змагла..."

Не толькі жыхары Беластока ў той дзень перажылі трагедыю гвалтоўнага расставання са сваімі роднымі і блізкімі, але і некаторыя з жыхароў блізкіх вёсак Беластоцкага сельсавета.

У вёсцы Георгіеўка з беларусаў жыў толькі Ігнат Мархель. Яго аднаго і арыштавалі. У Нова-Андрэеўцы арыштавалі старшыню калгаса Пятра Вутына. Сын Мікалай бацьку не запомніў з-за свайго малалецтва (усяго два гады было), але па расказах маці ведае, што калі бацьку забіраць прыйшлі, ён моцна заплакаў, спалохаўшыся чужога дзядзьку ў чорным шынялі. Калі ж яму далі пагуляць з бацькавым гармонікам, то адразу супакоіўся.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ЗЛАЧЫННАСЦЬ

## ПРЫВІТАННЕ, ПЛЕМЯ МАЛАДОЕ

**Вучоныя Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь адзначаюць рэзкае "амаладжэнне" злачыннасці, а таксама рост проціпраўных дзеянняў сярод дзяўчат.**

**Хоць моладзь складае толькі 1/5 частку насельніцтва, ёю ўчыняецца больш палавіны ўсіх злачынстваў. Найбольшую крымінальную актыўнасць праяўляюць падлеткі 16--17 гадоў. Калі ў 1980 годзе кожны дзесяты злачынца быў непаўналетнім, то ў 90-я гады -- кожны шосты. Падлеткамі ўчыняецца кожнае пятае згвалтаванне і разбойны напад, кожны трэці крадзеж і грабеж асабістай маёмасці.**

**У маладзёжным асяроддзі, мяркуючы па выніках даследавання, усё больш распаўсюджваюцца п'янства і алкагалізм, наркаманія і прастытуцыя, беспрытульнасць і бяздомнасць. Расце колькасць незаконнароджаных дзяцей, выхаваных у няпоўных сем'ях і ў дзіцячых дамах, а таксама псіхічна анамальных.**

**У вялікіх гарадах прыкладна кожны дзесяты падлетак ужывае наркотыкі, кожны трэці ва ўзросце 15--19 гадоў рэгулярна п'е спіртныя напіткі, кожная другая-трэцяя прастытутка -- непаўналетняя.**

**Каля трэці падлеткаў, якія ўцяклі з дзіцячых дамоў, становяцца бадзягамі, 1/5 -- злачынцамі, 1/10 -- самазабойцамі.**

*("Белорусский рынок").*

## *ХРАМ У МАЗЫРЫ*



**Яшчэ адзін праваслаўны храм прыняў веруючых у Мазыры. Свята-Нікольская царква, што дзейнічала да 1922 года, дзякуючы намаганням айца Мікалая, які дабіўся перадачы царквы веруючым, і дапамозе камерцыйных структур у рэстаўрацыі, набыла другое жыццё. Тут адкрыта і нядзельная школа, у якую залічана каля 60 паслушнікаў. Нядаўна царкву і школу асвяціў епіскап Тураўскі і Мазырскі Пётр, хаця рэстаўрацыйныя работы яшчэ працягваюцца.**

**НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд Свята-Нікольскай царквы; сем званоў за некалькі тысяч долараў выкупілі для царквы мазырскія фірмы "Кентаўр" і "Патрыцыя".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## *З ДНЁМ 25 САКАВІКА —*

78 УГОДКАМІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ПРАЗ ГАЗЕТУ "ГОЛАС РАДЗІМЫ" БЕЛАРУСКІ НАРОД ВІНШУЮЦЬ

### БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЕРЫКІ:

Дарагія суродзічы!

Надышоў наш Вялікі Сакавік -- 78-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі -- нашае нацыянальнае сьвята, якое мы заўсёды ўрачыста адзначаем.

Апошнім часам паўстала вялікая пагроза не толькі беларускай незалежнасьці, але нават існаваньню беларусаў як нацыі. Аб'яднаўшыся тут на эміграцыі, мы павінны разам з сваімі братамі на Бацькаўшчыне прыкласьці ўсю сваю энергію і творчыя сілы, каб не дапусьціць страты беларускае дзяржаўнасьці.

Няхай Вялікі Сакавік вядзе нас да здабыцьця волі нашаму народу і поўнае незалежнасьці нашай любай Беларусі! Няхай сьвеціцца запаленая іскрынка свабоды на нашай Бацькаўшчыне!

**Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ,** старшыня. **Міхась СЕНЬКА,** сакратар.

### КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ:

Дарагія суродзічы!

Ад імя сяброў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады ды й свайго асабіста вітаю вас з запаветным Днём 25 Сакавіка -- Днём Незалежнасьці Беларусі!

У гэты дзень 78 год таму назад у Менску Рада Усебеларускага Кангрэсу Актам 25 Сакавіка абвесьціла незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Акт 25 Сакавіка мае каласальнае для нас значэньне:

1. Актам 25 Сакавіка беларускі народ заявіў усяму сьвету сваю волю быць незалежным і гэтым запачаткаваў у беларускім адраджэнскім руху новую эпоху -- эпоху змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

2. Акт 25 Сакавіка паставіў на парадак дня пытаньне дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

3. З Актам 25 Сакавіка мусілі лічыцца й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было б й Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а была б толькі Северно-западная вобласьць РСФСР.

4. Каб не было Акту 25 Сакавіка, не было б й прадстаўніцтва Беларусі ў Задзіночаных Нацыях.

5. Не было б сяньня й Рэспублікі Беларусь.

Вось чаму мы, беларусы, дзе бы мы ні знаходзіліся, кожны год урачыста адзначаем найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята Дзень 25 Сакавіка, Дзень Незалежнасьці Беларусі.

У Канадзе ў гэты дзень ад 1970 з году ў год ля ратушы Таронта ўзьвіваецца бел-чырвона-белы сьцяг й [illegible]аворыць колькімільённаму гораду аб Беларусі. У гэты [illegible] у беларускіх цэрквах адбываюцца Багаслужбы за Белар[illegible]сь й беларускі народ. У гэты дзень пасьля Багаслужбаў у беларускіх залях пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьцягамі, зь якімі йшлі ў 1410 годзе пад Грунвальдам беларускія палкі супраць крыжакоў, і старадаўняй крывіцкай Пагоняй, крывіцкай [illegible] была яна дзяржаўным гербам ужо й Полацкага княства кр[illegible]ў, адбываюцца ўрачыстыя сходы. І гучаць на іх прарочыя словы Янкі Купалы:

**Паўстань з народу нашага, Уладар,**
**Адбудаваць свой збураны пасад.**
**Бо твой народ забыў, хто гаспадар**
**І хто яго абдзёр з каронных шат.**

**На ўладара жджэ Беларусь даўно.**
**І жджэ цябе, ўладарства Божы дар.**
**Вялікае, магутнае яно...**
**Пад беларускі сьцяг прыдзі, Ўладар.**

У гэты Дзень 25 Сакавіка мы лучымся душой і сэрцам з вамі, дарагія суродзічы, жадаем вам добрага здароўя й сілы духа і дзелімся з вамі запаветным клічам нашага прарока Янкі Купалы:

**Паўстань, Народ! Для будучыні шчасьце**
**Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед:**
**Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці.**
**Прапаўшых не пацешыць шчасьцем сьвет.**

**Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету, --**
**Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.**
**Паўстань, Народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты...**
**Цябе чакае маці-Беларусь!**

Дай жа нам усім, Божа, сілы духа пачуць і йсьці за клічам Янкі Купалы.

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ,** старшыня.

### ФЕДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ У АЎСТРАЛІІ:

Дарагія сябры, беларуская моладзь і ўсе суродзічы!

Беларусы Аўстраліі, якія згуртаваліся у Федэральнай радзе беларускіх арганізацыяў, вітаюць усіх вас з 78-мі ўгодкамі агалошаньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Шлях змаганьня беларускага народу за аднаўленьне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ёсьць цяжкі і густа паліты змагарнай крывёю яе верных дачок і сыноў.

Мінула ўжо 78 год з тае гістарычнае падзеі, калі ў сталіцу Беларусі -- Менск з'ехаліся 1 782 дэлегаты на І Усебеларускі кангрэс, каб вырашыць дзяржаўнае становішча маці-Беларусі.

На гэтым кангрэсе быў сфармуляваны гэтак званы векапомны Акт 25-га Сакавіка 1918 года, якім Беларусь была абвешчана на ўвесь сьвет вольнай і незалежнай дзяржавай.

Народ, які захаваў на працягу стагодзьдзя сваю нацыянальную годнасьць, знойдзе і далей магутныя сілы, якія пакануюць ворагаў незалежнасьці Беларусі.

Мы павінны згодна і вытрывала працаваць і пашыраць у вольным сьвеце сьвятую ідэю нашага народа -- ідэю вольнай Беларусі.

Жыве Беларусь!

**За Выканаўчы камітэт Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі сакратар Паўлюк ГУЗ.**

# ЭВАЛЮЦЫЯ ІДЭІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## Ў ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯЎ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Вяртаюцца з небыцця (на новым узроўні распрацоўкі) высновы беларускай гістарыяграфіі канца XIX -- пачатку XX стагоддзяў -- М.Доўнар-Запольскага, У.Ігнатоўскага, В.Ластоўскага, У.Пічэты і інш. -- аб тым, што беларускі народ у IX--XIII стагоддзях меў сваю дзяржаўнасць у формах самастойных Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага, Наваградскага і іншых княстваў, а з сярэдзіны XIII стагоддзя -- у форме Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, якое яны характарызавалі як Літоўска-Беларускае гаспадарства (дзяржаву).

У публікацыях апошняга часу раскрываецца сапраўдны характар шматлікіх войнаў, якія вяла Масковія з Вялікім Княствам Літоўскім за Беларусь. Адна з іх -- Лівонская -- прымусіла ВКЛ пайсці ў 1569 годзе на заключэнне ў Любліне нераўнапраўнага дагавора аб саюзе з Польшчай у форме ўтварэння адзінай дзяржавы -- Рэчы Паспалітай, што фактычна азначала страту беларуска-літоўскай дзяржавай свайго суверэнітэту. Аднак патрыятычным сілам ВКЛ на чале з канцлерам Львом Сапегам удалося аднавіць самастойнасць сваёй дзяржавы ў рамках федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Гэта было замацавана ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.

Тым не менш Люблінская унія, як паказалі Доўнар-Запольскі, Ігнатоўскі і іншыя беларускія гісторыкі, адыграла адмоўную ролю ў гістарычным лёсе беларускага народа. Беларусь, адзначаў Ігнатоўскі, "увайшла ў дзяржаўны арганізм такога гаспадарства, каторае ўжо пачало хварэць і палітычна і сацыяльна. Гэтая хвароба перадавалася і Беларусі. З культурнага боку Беларусь таксама прайграла, бо польскі культурны ўплыў адарваў ад народу вышэйшыя станы, каторыя, апаляччыўшыся, сталі чужымі для свайго народу як культурная сіла".

Гэта адбылося не адразу. Да працэсу амаль поўнага знікнення этнічнай эліты ў беларусаў у найбольшай ступені прычыніліся войны 1648--1667 гадоў, якія суправаджаліся катастрафічнымі стратамі насельніцтва (52 працэнты), руйнаваннем народнай гаспадаркі, матэрыяльнай і духоўнай культуры. Вайна 1654--1667 гадоў канчаткова рассеяла ілюзіі праваслаўнай шляхты Беларусі наконт палітыкі "адзінавернай" Масквы, паказала сапраўдны твар расійскіх заваёўнікаў, з'явілася для яе апошнім штуршком да масавага пераходу ў каталіцтва і апалячвання. У гэтым жа накірунку ўздзейнічалі прывілеі, якія мела ў Рэчы Паспалітай каталіцкая царква і польская шляхта. У пагоні за імі шляхта Беларусі выракалася веры продкаў, роднай мовы, культуры, традыцый і звычаяў свайго народа, засвойвала і прызнавала ў якасці роднай польскую мову і культуру і ўрэшце злілася з польскай шляхтай у адзіны "польскі народ шляхетны". Тое ж адбылося і з этнічна літоўскімі феадаламі. У 1696 годзе са згоды беларускай шляхты пастановай канфедэрацыі сасловаў Рэчы Паспалітай дзяржаўны статус у ВКЛ -- насуперак Статуту 1588 года -- атрымала польская мова. Паказальна, што ў тым жа годзе беларуская і літоўская шляхта была канчаткова ўраўнавана ў правах з польскай у адносінах узмацнення кантролю над дзейнасцю вышэйшых службовых асобаў.

У выніку ў XVIII стагоддзі беларускі і літоўскі народы фактычна пазбавіліся дзяржаўнасці, хоць фармальна да канца гэтага стагоддзя ў складзе Рэчы Паспалітай працягвала існаваць аўтаномнае Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае -- дзяржава апалячаных беларускіх і літоўскіх феадалаў. Праўда, "сепаратысцкія", "літвінскія" настроі, пэўныя ментальныя асаблівасці ў значнай частцы беларускай шляхты і арыстакратыі да канца не зніклі. Тым не менш у масе яна лічыла сябе палякамі, а Рэч Паспалітую ўспрымала як сваю, польскую дзяржаву і айчыну ў шырокім сэнсе слова. Не выпадкова канстытуцыя 3 мая 1791 года абвясціла Рэч Паспалітую унітарнай дзяржавай, скасавала рэшткі самастойнасці ВКЛ.

І ўсё ж у паўстанні 1794 года ў Літве-Беларусі з боку часткі мясцовай шляхты праявілася выразнае імкненне да аднаўлення Рэчы Паспалітай як федэратыўнай дзяржавы "двух народаў" пры раўнапраўнасці ВКЛ і Польшчы. Аднак "літоўскія сепаратысты" неўзабаве адступілі пад націскам кіраўніка паўстання літвіна-беларуса Т.Касцюшкі, які фактычна выступаў за стварэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года як унітарнай польскай дзяржавы. Яшчэ больш яскрава прапол[illegible]кія пазіцыі шляхты Літвы-Бе[illegible]сі праявіліся ў 1812 годзе ў [illegible] франка-расійскай вайны. Шляхецкая адміністрацыя адноўленага Напалеонам Вялікага Княства Літоўскага практычна вык[illegible]пася за стварэнне адзінай Рэ[illegible]аспалітай як польскай дзяр[illegible]авы. Тое ж самае засведчыла і паўстанне 1830--1831 гадоў. І нават на пачатку 60-х гадоў мясцовае дваранства 5 заходніх губерняў у большасці выступала (у адрасах на імя цара) за далучэнне сваіх губерняў да Каралеўства Польскага.

Тым часам у 10--20-я гады XIX стагоддзя сярод інтэлігенцыі уніяцкага і каталіцкага веравызнанняў зараджалася літвінска-беларуская самасвядомасць. Яна адбілася на навуковай і літаратурнай дзейнасці М.Бабро́ўскага, І.Даніловіча, І.Яраш́эвіча, Я.Баршчэўскага, Я.Чачота, А.Рыпінскага, В.Дуніна-Марцінкевіча, А.Кіркора, А.Вярыгі-Дарэўскага і інш. У 40--50-х гадах гэтая плынь была ўжо прыкметнай з'явай у грамадскім жыцці Вільні, Мінска, Віцебска. Аднак яна ў той час яшчэ канчаткова не адпачкавалася ад польскай культуры, ад ідэі гістарычнай прыналежнасці сваёй радзімы -- Літвы-Беларусі да "вялікай Польшчы", якой прызнавалася Рэч Паспалітая ў межах 1772 года. Разам з тым, беларуская нацыянальная ідэя паступова выспявала і ў асяроддзі мясцовай праваслаўнай інтэлігенцыі, выхаванай у расійскай культуры. Пра гэта сведчаць таленавітыя ананімныя паэмы "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", навуковыя выданні па гісторыі і этнаграфіі Беларусі І.Грыгаровіча, М.Без-Карніловіча, П.Шпілеўскага, П.Бабро́ўскага і інш. Прадстаўнікі гэтай плыні ў той ці іншай ступені падзялялі ідэі заходнерусізму. Кантактаў паміж адзначанымі плынямі ў беларускім нацыянальна-культурным руху першай паловы XIX стагоддзя не назіралася.

Падчас паўстання 1863 года ў польскім вызваленчым руху даволі выразна выпучаецца беларуска-літвінская плынь на чале з К.Каліноўскім. Галоўным для кіраўнікоў паўстання --польскіх правых "чырвоных" і "белых" з'яўлялася, як вядома, аднаўленне Рэчы Паспалітай як унітарнай польскай дзяржавы ў межах 1772 года, г. зн. з уключэннем у яе склад Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Правы беларусаў, літоўцаў і украінцаў на самавызначэнне свайго лёсу ў праграмных дакументах варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК) -- польскага нацыянальнага ўрада -- замоўчвалася, а фактычна адмаўлялася. Як і ў час паўстання 1794 года, польскія шляхецкія рэвалюцыянеры не прызнавалі самастойнасці і раўнапраўнасці Віленскага падпольнага цэнтра -- Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК), які рыхтаваў паўстанне ў межах гістарычнай Літвы, настойліва дамагаліся поўнага падпарадкавання яго Варшаве. Пры гэтым ігнараваліся імкненне Каліноўскага і яго аднадумцаў, аўтараў і выдаўцоў "Мужыцкай праўды" ператварыць паўстанне ў народнае, а фактычна сялянскае, вылучыўшы адпаведную аграрную праграму. Па аграрным і нацыянальным пытаннях Каліноўскі і яго група былі цалкам салідарныя з лозунгамі расійскіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў -- А.Герцэна, М.Бакуніна, М.Агарова: "Зямля -- сялянам, воля --правінцыям" (Літве, Беларусі, Украіне). Паводле звестак В.Ратча і мемуараў некаторых відных дзеячаў паўстання, што асабіста ведалі Каліноўскага, ён выступаў з патрабаваннем самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі і дамагаўся раўнапраўных адносін паміж віленскім і варшаўскім падпольнымі цэнтрамі. З гэтай прычыны польскія шляхецкія рэвалюцыянеры называлі яго "літоўскім сепаратыстам".

Прынцыповыя праграмныя разыходжанні паміж беларуска-літоўскімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі і польскімі шляхецкімі рэвалюцыянерамі ў публічнай форме, у падпольным друку праявіліся толькі часткова. Адкрытая палеміка вялася на пасяджэннях Літоўскага правінцыяльнага камітэта -- найчасцей паміж Каліноўскім і камісарам Варшавы ў Вільні Н.Дзюлёранам, а таксама прадстаўніком ЛПК на перагаворах з ЦНК у канцы 1862 года. Апошні, аднак, не прыслухоўваўся ні да парадаў рэдакцыі "Колокола", ні да настойлівых патрабаванняў групы Каліноўскага, "не ўважыў, -- як пісаў Каліноўскі, -- інтарэсаў Літвы" нават пры вызначэнні пачатку паўстання. У такой сітуацыі ЛПК на працягу 10 сутак вагаўся, як рэагаваць на гэта, але ўрэшце 1 лютага 1863 года прыняў рашэнне падпарадкавацца польскаму нацыянальнаму ўраду і прынятай ім праграме барацьбы, выдаў адпаведны маніфест, у якім заклікаў народы Літвы-Беларусі падтрымаць паўстанне ў Польшчы.

Тым не менш недавер Варшавы да "літоўскага сепаратыста" застаўся, і па ініцыятыве "белых", якія ў пачатку сакавіка захапілі кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы, 11 сакавіка 1863 года адбыўся контррэвалюцыйны пераварот у Вільні: часовы ўрад Літвы-Беларусі на чале з Каліноўскім быў расфарміраваны і заменены Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ўзначаліў "белы" памешчык з Ковенскай губерні Я.Гейштар.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук.**

**(Заканчэнне будзе).**

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ



# ВЯРТАННЕ З ЗАБЫЦЦЯ

У Вільні ўвекавечылі памяць яшчэ аднаго беларускага дзеяча, жыццё якога звязана з гэтым горадам -- Вацлава Ластоўскага. Перад яго талентам і подзвігам трэба схіляць нізка галаву. Ён цікавіўся менавіта ўсім: гісторыяй, літаратурай, культурай, этнаграфіяй. Нарадзіўся Вацлаў у сям'і беззямельнага шляхціца Юсціна і Ганны Ластоўскіх у 1883 годзе на Віцебшчыне. Бацькі не мелі магчымасці даць адукацыю сваім дзецям, таму здольны ад прыроды Вацлаў скончыў толькі прыходскую школу і нейкі час наведваў вучылішча.

Цяга да ведаў прывяла В.Ластоўскага ў Пецярбург, дзе ён працаваў у студэнцкай бібліятэцы і таемна наведваў лекцыі вядомых прафесараў універсітэта. Потым ён уладкаваўся ў Рызе служачым кантторы, спадзяваўся здаць іспыты на атэстат, але гэта яму не ўдалося: "срезали" па рускай мове. Таму ў графе "адукацыя" ў час выбараў яго ў акадэмікі Акадэміі навук БССР (1928 год) рукой самога В.Ластоўскага запісана "хатняя".

З Рыгі Вацлаў выслаў у Вільню ў рэдакцыю газеты "Наша ніва" свой артыкул. А ў 1909 годзе яго запрасілі працаваць у рэдакцыю. На старонках газеты сталі з'яўляцца артыкулы, замалёўкі, апавяданні, падпісаныя псеўданімам Власт. У 1910 годзе пачала друкавацца "Кароткая гісторыя Беларусі" Ластоўскага -- першая кніга па гісторыі на беларускай мове. На старонках газеты Ластоўскі разгарнуў дыскусію пра шляхі развіцця беларускай літаратуры, сам распрацаваў і надрукаваў лекцыі па пачатковай геаграфіі і прыродазнаўству. Гэту працу ён прадоўжыў, стаўшы ў 1916 годзе ўладальнікам віленскай "Беларускай кнігарні", дзе выдаваліся школьныя падручнікі і кнігі для дзяцей.

У час кайзераўскай акупацыі "Наша ніва" была закрыта, Вільню пакінулі многія вядомыя беларускія дзеячы, сярод якіх Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі. Вацлаў Ластоўскі стаў актыўным сябрам Віленскай беларускай рады. Увайшоў ад яе ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і пасля яе абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года Ластоўскі стаў яе прэм'ер-міністрам. На гэтай пасадзе ён заставаўся да роспуску ўрада ў 1923 годзе. Пасля лёс наканаваў яму цяжкія выпрабаванні. Доўгі час імя выдатнага сына беларускай зямлі было забаронена. Цяпер беларусы Літвы збіраюць весткі пра беларусаў, якія жылі і працавалі ў Вільні і якія з'яўляюцца гонарам не толькі Беларусі, але і Літвы. Дзякуючы Таварыству беларускай культуры ў Літве, менавіта спадару Хведару Нюньку, адкрыта мемарыяльная шыльда памяці В.Ластоўскага на доме па вуліцы Пііліма, 5, дзе ён жыў (1910-1920 гады). На гэтым доме ўжо доўгія гады вісіць шыльда, прысвечаная памяці яго першай жонкі Марыі Ластоўскене-Іваноўскайце, літоўскай пісьменніцы, якая разам з сваёй старэйшай сястрой Зосяй пісала пад агульным псеўданімам Лаздзіну Пяледа. (Нядаўна адкрыты ім помнік у старым горадзе).

Шыльда памяці В.Ластоўскага выканана скульптарам Хведарам Іванчанкам з Мінска, на ёй надпіс на беларускай і літоўскай мовах. Яшчэ адно імя вярнулася з забыцця. Пра яго цяпер ведаюць нашчадкі. В.Ластоўскі служыў Беларусі і яе адраджэнню.

**Леакадзія МІЛАШ.**

**НА ЗДЫМКУ: адкрыццё шыльды Вацлаву ЛАСТОЎСКАМУ.**

## НАЛЕЖАЦЬ І НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ТАДЭВУШ ГАРЭЦКІ

Творчасць гэтых майстроў XVI--XVII стагоддзяў захапіла Гарэцкага сваёй блізкасцю да рэальнага жыцця, драматызмам, выдатным пачуццём каларыту і дасканаласцю кампазіцыі. Копіі дзвюх карцін гэтых мастакоў -- "Нясенне крыжа Хрыстом" П'ембa і "Святы Варфаламей" Рыберы -- Гарэцкі адсылае ў Пецярбург, дзе яны атрымалі высокую ацэнку мэтраў акадэміі -- Вараб'ёва, Маркава, Бруні. У Мадрыдзе Тадэвуш пачаў рабіць копію з карціны Рафаэля "Святая сям'я", у сувязі з чым звярнуўся ў акадэмію з просьбай прадоўжыць тэрмін знаходжання за мяжой на год. Цар, які асабіста сачыў за поспехамі Гарэцкага, даў дазвол і яшчэ павялічыў стыпендыю мастаку. У Іспаніі Гарэцкі прабыў больш за два гады. Ён некаторы час жыў у Гранадзе, маляваў віды Альгамбры, працаваў над партрэтамі і рэлігійнымі кампазіцыямі. Некаторыя яго работы выстаўляліся, адна з іх -- "Апошняя прычасць паміраючай" -- выстаўлена была ў Мадрыдзе і атрымала вельмі добразычлівыя ацэнкі мясцовай прэсы.

У 1853 годзе Гарэцкі едзе ў Італію. Там ён прабыў нядоўга і ў хуткім часе вярнуўся ў Пецярбург. На акадэмічнай выставе ў канцы 1853 года Тадэвуш прадставіў некалькі карцін, у тым ліку віды Альгамбры, "Апошнюю прычасць", "Пілігрымы перад саборам Святога Пятра ў Рыме" і іншыя. Адна з гэтых карцін -- "Від Двара львоў у Альгамбры" праз некалькі год была набыта царом для Эрмітажа. За карціны, якія Гарэцкі прывёз з падарожжа, яму было прысуджана званне акадэміка гістарычнага жывапісу.

У 1852 годзе ў Італіі памёр Карл Брулоў, які жыў там на працягу двух гадоў. Засталіся незавершаныя работы, у тым ліку тыя, якія мэтр рабіў па заказу Акадэміі мастацтваў. У сувязі з гэтым Гарэцкі зноў павінен быў ехаць за мяжу, каб закончыць працу настаўніка. У 1855 годзе ён выязджае ў Італію.

Работа над пачатымі палотнамі Брулова працягвалася каля трох гадоў. Найвялікшай з іх была карціна "Святая Цэцылія" -- копія з работы Рафаэля, эскіз якой быў зроблены Бруловым, а завяршыў яе Гарэцкі ў 1858 годзе. Карціна гэтая атрымала высокую ацэнку прафесараў мастацтва з Балоньі і была адпраўлена ў Пецярбург. У час побыту ў Італіі жыццё Тадэвуша дазнала значных змен. Яшчэ ў час першага прыезду ў Рым лёс падарыў яму сустрэчу з цудоўнай жанчынай -- дачкой Адама Міцкевіча Марыяй. Зусім маладзенькая (ёй тады было 17 гадоў), яна разам з цёткай падарожнічала тады па Італіі, удасканальваючы свае шматлікія таленты. Марыя ў спадчыну ад бабулі -- славутай піяністкі Софіі ШымаНоўскай -- атрымала выдатнае пачуццё музыкі, прыгожа спявала, не цуралася прыгожага пісьменства і нядрэнна малявала. Марыю вельмі любілі ў сям'і Міцкевічаў. Быў у яе нават і магчымы жаніх -- сакратар Адама Міцкевіча Арманд Леры. Але сустрэча з Тадэвушам Гарэцкім парушыла гэтыя планы. Нечакана для крэўных Марыя выйшла замуж за мастака, паведаміўшы ім аб сваіх намерах у апошні момант. "Дарагі дзядзечка, -- пісала яна ў лісце да Францішка Міцкевіча за тры дні да вяселля, -- ... выходжу замуж. Мой будучы муж -- пан Тадэвуш Гарэцкі, сын палкоўніка Антонія Гарэцкага. Пан Тадэвуш у краі і за мяжой мае ўжо праслаўленае імя і трывалую рэпутацыю, вызначыўся як выдатны мастак, а тыя, хто яго ведаюць бліжэй, цэняць у ім многа іншых добрых якасцей. Бацька мой ведаў яго некалькі год і часта аб ім добра адзываўся". Шлюб, які адбыўся 7 лістапада 1857 года ў Парыжы, выклікаў сапраўдны скандал: у Леры, Уладзіслава Міцкевіча (брата Марыі) і Тадэвуша Гарэцкага дайшло да бойкі, і толькі ўмяшанне Марыі і іншых сваякоў перашкодзіла дуэлі. Але ў сям'і жонкі Тадэвуш так і не стаў сваім.

Пасля вяселля, наведаўшы сваякоў разам з маладой жонкай, Тадэвуш пасяліўся ў Парыжы. Ён не парываў цалкам сувязей з Акадэміяй мастацтваў і радзімай, але больш надоўга туды не ездзіў. Пэўна, магчымасць канчаткова пасяліцца за мяжой з'явілася ў мастака не толькі таму, што ён дасягнуў пэўных вышынь у жывапісе і мог сам дыктаваць умовы. Не апошнюю ролю хутчэй за ўсё адыграла і тое, што ў 1856 годзе памёр ягоны пажыццёвы апякун і наглядчык -- Мікалай І. У Расійскай імперыі рыхтаваліся вялікія рэформы, жыць стала лягчэй.

У Парыжы Тадэвуш Гарэцкі нарэшце аб'яднаўся з бацькам. Антоній, нягледзячы на пажылы ўзрост, прымаў актыўны ўдзел у літаратурным і палітычным жыцці. З сябрамі -- былымі ўдзельнікамі паўстання 1830--1831 гадоў і студэнтамі Віленскага універсітэта ў яго былі даволі складаныя адносіны. Антоній Гарэцкі меў рэпутацыю арыгінала і дзівака, захапляўся рознымі філасофскімі і палітычнымі плынямі. Ён памёр у 1862 годзе на руках сына і пахаваны на могілках Манмарансі ў Парыжы. Антоній Гарэцкі стаў першым, хто пахаваны ў вялікім радавым склепе Гарэцкіх у Парыжы. Дачка Тадэвуша і Марыі Алена, якая пражыла ўсяго два гады (памерла пасля доўгай хваробы ў 1860 годзе) была пахавана ў другім месцы, магчыма, таксама ў Парыжы.

Тадэвуш Гарэцкі многа працаваў. Аб тым, што зроблена ім за гэты нядоўгі перыяд жыцця ў Парыжы, могуць сведчыць каталогі мастацкіх выстаў таго часу. Мастак прапанаваў часцей за ўсё карціны на рэлігійную тэматыку: у 1859 годзе -- "Распяцце", у 1861 -- "Святы Дамінік", у 1864 -- "Хрыстос на гары Аліў", у 1866 -- "Дамініканец", а таксама шматлікія партрэты. Многа разоў маляваў ён жонку, яе сваякоў, як і раней, для Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу рабіў копіі карцін вялікіх майстроў з Луўра. Парыжскі перыяд у жыцці мастака адзначаны быў педагагічнай дзейнасцю, якая да таго ж мела своеасаблівы налёт экзотыкі. У 1862 годзе ён вучыў жывапісу, перспектыве і тэорыі прыгожага мастацтва чатырох іранцаў па просьбе персідскага шаха, за што быў узнагароджаны вышэйшай узнагародай Персіі "Ордэнам ільва і сонца". Гэты выпадак ледзь не зрабіў вялікую непрыемнасць мастаку. Атрымліваць замежныя ўзнагароды падданым Расійскай імперыі (а Гарэцкі не мяняў падданства) можна было толькі з дазволу вышэйшых улад. Чыноўнікі ў Пецярбургу спачатку хацелі нават абвінаваціць Гарэцкага ў парушэнні дзяржаўных законаў. Але ўрэшце справу замялі, дазволіўшы мастаку прыняць іранскі ордэн.

Сям'я Гарэцкіх хутка расла. Неўзабаве нарадзіліся Цэліна, Людвіг і Адам. Людвіг у будучыні стаў вядомым акулістам, жыў і памёр у Парыжы ў 1936 годзе. Адам скончыў палітэхніку ў Рызе, працаваў у розных краінах Еўропы.

У 1866 годзе Тадэвуш Гарэцкі апошні раз наведаў радзіму. Пабываў у Пецярбургу, у Акадэміі мастацтваў і ў 1867 годзе вярнуўся ў Парыж. Тут ён і памёр пасля цяжкай хваробы 31 студзеня 1868 года ва ўзросце 42 гадоў. Пахаваны побач з бацькам у сямейным склепе на могілках Манмарансі. Жонка перажыла яго на паўстагоддзя.

Гарэцкі пакінуў пасля сябе вялікую мастацкую спадчыну, разнастайную і маючую значную вартасць. Частка яго работ знаходзілася ў дзяцей, перш за ўсё ў Людвіга, частка -- у сваякоў жонкі. Сёння карціны Гарэцкага раскіданы па свеце, многа страчана або схавана ў прыватных сховішчах, невялікая колькасць ёсць у музеях. Яны вызначаюцца выдатным малюнкам, правільнай кампазіцыяй, урачыстасцю і крыху сентыментальным настроем і могуць стаць побач з творамі еўрапейскіх класікаў XIX стагоддзя.

Лёс Тадэвуша Гарэцкага мае многа незвычайнга і адначасова заканамернага, выкліканага супярэчнасцямі эпохі, у якую ён жыў. Сын паўстанца і паэта, які вучыўся на грошы сатрапа і ганіцеля вызваліцеляў бацькаўшчыны, зяць найзнакаміцейшага чалавека, паэта і змагара за незалежнасць Польшчы, Літвы і Беларусі, чалавек, які большую частку жыцця вымушаны быў знаходзіцца пад пільным наглядам ІІІ аддзялення і неяк пагаджаць супярэчнасці свайго становішча, Тадэвуш Гарэцкі ўсё ж у канцы нядоўгага жыцця здолеў вырвацца на волю і знайсці супакой у сталіцы сусветнай эміграцыі і рэвалюцыі -- Парыжы.

**Святлана СЯЛЬВЕРСТАВА.**

**Заканчэнне.
Пачатак у № 12.**

# СВЕДКІ І СВЕДЧАННІ

**(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.).**

У лютым 1938 года арышты аднавіліся зноў. Дзелячыся ўспамінамі, некаторыя беластокцы, якія засталіся жывымі, гаварылі, што пасля гэтага не засталося ў Беластоку ніводнага дарослага мужчыны, а значыць, і арыштаў больш не было. У гэтых адносінах яны недакладныя. Пасля арыштаў у ноч з 11 на 12 лютага таго-сяго з мужчын тады не кранулі, некаторыя знаходзіліся на лесанарыхтоўках ці яшчэ дзе-небудзь. Але яшчэ не ўсе жыхары адышлі ад шоку, атрыманага ў выніку сапраўднай аблавы, наладжанай НКУС на мужчын у вёсцы, яшчэ не высахлі дзіцячыя і жаночыя слёзы па мужах і бацьках, як праз чатыры дні пасля той ракавой ночы зноў арышты.

16 лютага днём работнікі НКУС прыехалі ў вёску "падчышчаць" беларусаў і палякаў, што яшчэ засталіся. Арыштавалі 14 чалавек і павезлі ў Крывашэіна да асноўнага этапу арыштаваных.

Вось так у некалькі "захопаў" былі арыштаваны беластоцкія беларусы і палякі. Практычна ў кожным доме, у кожнай сям'і пабывалі энкавэдэшнікі і павялі ў невядомасць мужа, брата, сына, бацьку,.. пакідаючы пасля сябе няўцешнае гора сям'і на ўсё астатняе жыццё. І яшчэ пакідалі гэтыя "дзядзькі са стрэльбай" пасля сябе, бадай, адзінае для ўсіх пытанне: за што арыштавалі? У чым правініўся?

Праводзячы этап арыштаваных, кожная з жанчын напэўна думала, што яе мужа (бацьку, брата, жаніха) арыштавалі памылкова і хутка адпусцяць. І ўсё ж, навучаныя горкім вопытам папярэдніх гадоў, які сведчыў, што савецкае правасуддзе не столькі судзіць, колькі карае, і часта не толькі па-сапраўднаму вінаватых, некаторыя вясковыя жанчыны сваім практычным сялянскім розумам прыкідвалі, як пракарміць сям'ю да вяртання мужа, у што апрануць і абуць... Мужчыны ж адразу пасля арышту, яшчэ да рашэння суда ці якіх-небудзь іншых "пастаноў", у вачах ахоўнікаў, рознакалібернага начальства, ды і немалой колькасці простага народа з "раўнапраўных грамадзян самай раўнапраўнай дзяржавы аўтаматычна ператварыліся ў ворагаў народа", "спецкантынгент" і іншых "контрыкаў".

Варта адзначыць, што трагедыя беластокцаў не абмежавалася толькі межамі вёскі. К канцу ж 30-х гадоў многія беластокцы, ратуючыся ад калектывізацыі, самавольства мясцовых уладаў, у пошуках лепшай долі пакінулі родныя мясціны. Жыццё раскідала іх па розных гарадах і вёсках, але лёс іх усюды быў аднолькавы. Не жадаючы ўступаць у калгас, паехала шукаць лепшай долі ў далёкія кубанскія стэпы цэлая група беластокцаў -- браты Вікенцій і Антон Міхні са сваімі дарослымі і малымі дзецьмі, іх сястра Юзэфа з мужам і многія іншыя. Браты Міхні пасля шматлікіх пакут аселі нарэшце ў горадзе Шахты Растоўскай вобласці і ўладкаваліся працаваць на шахту. Атрымалі пакой у бараку. Збіраліся доўга і шчасліва жыць,.. але 26 лютага 1938 года людзі ў форме зайшлі і ў іх барачны пакойчык...

Зусім магчыма, што многія з тых, хто пакінуў вёску Беласток, падзялілі лёс сваіх землякоў. Таму што лёс беластокцаў трыццатых гадоў не унікальны — гэта тыповы лёс многіх і многіх тысяч ураджэнцаў Беларусі, якія жылі ў СССР у тыя незабыўныя гады. Пераважная большасць з іх былі рэпрэсіраваны толькі за тое, што былі палякамі ці беларусамі, насілі "падазроныя" прозвішчы. Пра гэта гавораць вывучаныя архіўныя матэрыялы на многіх рэпрэсіраваных нашых землякоў, якія пражывалі на тэрыторыі Заходняй Сібіры. Пра гэта паведамілі ўспаміны нашых землякоў, жыхароў Беластока. Аднак доўгім, вельмі цяжкім быў шлях, які давялося прайсці ўсім нам, перш чым яны змаглі без боязі расказаць пра перажытае.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,
кандыдат гістарычных навук,
дацэнт.**

НЕЗАЛЕЖНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

І ў той жа час ён поўны самых разнастайных планаў і задумаў. Зазірнуць у мінулае даюць магчымасць старыя пісьмы (па-вучонаму -- эпісталярый). 21 сакавіка (3 красавіка) 1909 года ён пісаў некаму -- адрасат не ўказаны -- па-польску (з пісьмом пазнаёміў нас Уладзімір Казбярук, які, мушу адзначыць, шчодра падзяліўся з намі і многімі іншымі матэрыяламі пра Зямкевіча):

"З'яўляюся студэнтам Кіеўскай палітэхнікі, цяпер працую настаўнікам у сям'і пана Міхала Свянціцкага ў Казіміраве. Апрача настаўніцтва займаюся тут у вольныя хвіліны беларускай этнаграфіяй, да якой даў мне імпульс пан Міхал Федароўскі ў Варшаве. Прабыў у вучнёўстве ў яго два гады (1905 і 1906), перапісваючы для яго беларускія песні для наступных тамоў "Люду беларускага". Дзякуючы п. Федароўскаму, настолькі навучыўся па-беларуску, што цяпер вырашыў працаваць у гэтым кірунку і далей. Сабраў тут матэрыялаў на ладны том, які пасля апрацоўкі перадам у Акадэмію навук. Апрача гэтага займаюся гісторыяй беларускай літаратуры, яе, як і беларускі слоўнік, абяцала мне выдаць суполка "Загляне сонца" ў Пецярбургу.

Некаторых беларускіх пісьменнікаў і правадыроў руху ведаю асабіста. Не падабаюцца мне толькі ў тых адносінах, што, замест таго каб працаваць над асветай народа, вядуць сацыяльную прапаганду, абуджаюць класавую барацьбу. Угаворы і спрэчкі з імі не мелі аніякага поспеху, спрабаваў гэта ў Вільні, але марна. Засмучае мяне гэта, бо лічу, што з гэтага толькі шкода выйсці можа, як гэта і адбываецца ў аналагічным руху ва ўкраінцаў".

Надзвычай энергічны, рухавы, прагны да працы, марыў ён і пра граматыку беларускай мовы. І нават нешта ў гэтых адносінах рабіў. У лісце ў "Нашу ніву" ад 9 снежня 1910 года паведамляў: "Пішу начыста сваю "беларускую граматыку". Цяпер маю час, бо ў нас свята. Скора пашлю Вам, каб прагледзелі" ("Шляхам гадоў". Вып. 2. С. 19).

У 1915--1918 гадах Зямкевіч жыў і дзейнічаў пераважна ў Мінску і на Міншчыне -- Варшава і заходняя Беларусь з Вільняй доўгі час былі адрэзаны фронтам. На тагачасных здымках бачым яго ў афіцэрскіх пагонах (відаць, як і Я.Купала, служыў у будаўнічых атрадах, тым больш што ў яго была адпаведная спецыяльнасць). Тут застала яго эпоха вялікіх рэвалюцый, якая дала пэўны гістарычны шанц Беларусі. Важна было яго -- гэты шанц -- не ўпусціць. Сярод тагачасных беларускіх дзеячаў крыніцы дазваляюць убачыць і нашага героя. На з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску ў сакавіку 1917 года абраны ў этнаграфічную (разам з Б.Тарашкевічам) і школьную (разам з тым жа Тарашкевічам, З.Верас, А.Гаруном, П.Мядзёлкай, К.Каганцом) камісіі. Праз год разам з Р.Скірмунтам і П.Алексюком падпісаў ад імя Беларускага нацыянальнага камітэта тэлеграму вярхоўным германскім уладам з пратэстам супраць прэтэнзій літоўцаў і палякаў на спрадвечныя беларускія землі ("Вольная Беларусь", 1918, 18 сак.). Вясной таго ж 1918 года Зямкевіч выкладаў на курсах беларусазнаўства, арганізаваных у Мінску Народным Сакратарыятам Беларусі ("Голас Радзімы", 1993, 6 мая). Тады ж яго чакалі ў Маскве з дэлегацыяй Беларускай рады, накіраванай для перамоваў з савецкім урадам (Дыла Я. "Творы". Мн., 1981. С.268). У 1919 годзе Зямкевіч пісаў у газеце "Бацькаўшчына" аб ініцыятыве У.Леніна ў абвяшчэнні БССР, аб цікавасці кіраўніка савецкага ўрада да беларускага народа (Скалабан В. "Першыя крокі рэспублікі", "Крыніца", 1988, N 12. С. 4). Як бачым, у гэты бурлівы час і Зямкевіча зачапіла палітыка, і ён не астаўся ў баку ад векапомных гістарычных падзей.

За ўсімі клопатамі ён ніколі не забываўся папаўняць свае калекцыі. Не шкадаваў сродкаў, хоць быў чалавекам вельмі небагатым. Напрыклад, вядома, што канфіскаваны нумар "Нашай долі" ён адкупіў за даволі вялікія па тым часе грошы ў паліцэйскага прыстава ў Вільні. Забіраў у сваім калекцыянерскім імпэце шырока, цікавіўся не толькі духоўнай, але і матэрыяльнай культурай роднага народа. У перспектыве бачыўся багаты нацыянальны музей. Змітрок Бядуля, які добра ведаў Зямкевіча і быў у курсе яго планаў, пісаў пра яго на пачатку 1920 года ў артыкуле "Штрыхі да беларускай культуры": "...Быўшы вайсковым інжынерам на фронце, ён назбіраў багатыя калекцыі беларускіх нацыянальных вопратак, паясоў і г.д. Ён на гэта выдаваў свае ўласныя грошы, але, на жаль, усё гэта ў яго парасцягалі розныя прыватныя асобы, а галоўным чынам забралі з сабой яго калекцыі немцы, арганізатары выстаўкі ў Мінску пад нямецкай акупацыяй. Гэта ўсё вывезена ў Берлін. І вось пану Р.Зямкевічу не ўдалося залажыць нашага нацыянальнага музею, аб якім ён марыў шмат гадоў".

Тым не менш шматгадовая энергічная і мэтанакіраваная дзейнасць Зямкевіча з цягам часу матэрыялізавалася ў выглядзе



унікальнага надзвычай багатага збору кніг і рукапісаў пераважна беларускага накірунку. Паколькі збор Зямкевіча ўяўляе першародную цікавасць для нашай культуры, прывядзём яго сціслае апісанне паводле грунтоўнага даведніка Э.Хвалевіка "Польскія зборы" (т. 2, 1927). Вось што там даслоўна напісана (перакладаем з польскай):

"**Зямкевіч Рамуальд** (Варшава, вул. Хмельна, 68). Гуманітарная бібліятэка на розных мовах з асаблівым прыярытэтам гісторыі, літаратуры, мовазнаўства і фальклору Літвы, Беларусі, Украіны і наогул славяншчыны. Збор беларускіх друкаў (Біблія Скарыны, Астрожская Біблія, Слоўнік Памвы Бярынды і шмат іншых, нават невядомых бібліяграфіі) і перыёдыкаў. Беларускія рукапісы Аляксандра Рыпінскага, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Яна Неслухоўскага, Францішка Багушэвіча, Антона Лявіцкага (псеўданім: Ядвігін Ш.), Максіма Багдановіча і інш. Збор літоўскіх друкаў, выдадзеных на землях Польшчы, а таксама збор прац аб Літве на польскай мове. Збор кніжак і брашур аб татарах у Польшчы на польскай, рускай і беларускай мовах (у тым ліку "Альфуркан татарскі" Пятра Чыжэўскага, Вільня, 1616; "Апалогія татараў" Азулевіча, 1630 і інш.). Татарскія рукапісы (6 штук), пісаныя арабскімі літарамі па-беларуску і па-польску, XVI і XVII стагоддзяў. Вялікі аддзел з галіны польскай філалогіі, які змяшчае як старыя польска-іншамоўныя слоўнікі ў першых выданнях (Калепінус, Кнапіус, Дасыподыус, Вольмар, Троц і іншыя), так і багатую польскую дыялектную літаратуру. Ладны збор старадрукаў ("Зярцала" Рэя, "Гняздо цноты" Папроцкага, "Хроніка" Бельскага, Я.Каханоўскі ў першым і іншых выданнях). Творы з галіны бібліяфільства (блізка 800 пазіцый), гравіравання і літаграфіі на розных мовах з перавагай французскіх выданняў. Бібліяграфія польская і агульная, апошняя пераважна на французскай мове. Асаблівасцю бібліятэкі з'яўляецца выдатна падабраны збор (304 выданні) кніжак аб шашачнай гульні на ўсіх мовах, аднак з асаблівым выпучэннем твораў, што датычаць гульні ў "польскія шашкі". Мае ўласны экслібрыс".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Р. ЗЯМКЕВІЧ. 1914 год.**

*З архіва Зоські Верас.*

**Працяг.**
**Пачатак у № 12.**

# У ШТО ЎКЛАДЗЕНА ДУША...

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

"...Я ў тры гады пачаў чытаць, у сем пісаць вершы. У школу ж пайшоў у 8 год, бо не было ў што апранацца. Вершы я дасылаў у газету "Зорька", бо чамусьці пісаў па-руску, хаця і гаварылі ў нашых Беразяках па-беларуску і школа была беларуская. Мабыць, было болей рускіх кніг, чым беларускіх. Калі мяне пыталіся, кім я буду, я адказваў: "Пушкіным". Задаваліся мне і болей складаныя пытанні: напрыклад, ці будзе вайна. Я адказваў -- не будзе. Яшчэ памятаю, што чытаў на нейкія святы ці на хаўтурах біблію на царкоўнаславянскай мове. Слава пра разумнага хлопчыка разлеглася па ўсім раёне. Нават калі мне было больш за дваццаць год, я ехаў у Беразякі... праз Краснаполле і ў чаканні аўтобуса сеў у скверы на лаўку. Ішла міма нейкая жанчына, уважліва паглядзела на мяне і запытала, ці я не той разумны хлопчык з Беразяк. Я збянтэжыўся і сказаў: "Не". Але яна мне не паверыла, усё азіралася". **(З ліста І.Ласкова аўтару).**

Паэта прыкмеціў Бог... Паэта заўважыў лёс. І прымусіў рупіцца яго душу. Спярша -- проста працаваць дзеля Ісціны. Таму і першыя вершы запісваліся на рускай мове. Матчына ж, родная, аднавяскоўцаў мова -- беларуская. З часам адбудзецца вяртанне... Чаму ж тады руская мова напачатку? Думаю, не толькі таму, што "было болей рускіх кніг, чым беларускіх". А яшчэ вось што...

"Правучыўшыся тры класы, я агледзеў, што такі разумны, вучуся з дзецьмі, маладзейшымі за мяне на год. Пайшоў да дырэктара і сказаў, што хачу здаць за чацвёрты клас экстэрнам. Тады ў чацвёртым класе здавалі іспыты па рускай, беларускай мовах і матэматыцы. Мне сказалі, што да іспытаў мяне дапусцяць, але перавядуць толькі, калі я здам таксама іспыты па геаграфіі, гісторыі і прыродазнаўстве, г. зн. па ўсіх прадметах. Усе іспыты я здаў на "5" і быў пераведзены. А калі я яшчэ абмяркоўваў гэтую акцыю, напісаў у "Зорьку", просячы парады: ці варта мне пераходзіць адразу з трэцяга ў пяты. Мне адказалі, што мой намер дарэмны, бо вучачыся ў чацвёртым класе, я атрымаю больш трывалыя веды. Атрымаўшы гэтую параду, я напісаў: "Дорогая "Зорька"! За совет спасибо, но я уже перешел в пятый класс..." У рэдакцыі ўзрушыліся і прыслалі карэспандэнта паглядзець на такога дзівака. Карэспандэнт убачыла, што жылі мы з маці і братам вельмі бедна, што сам я быў малы і змучаны голадам. Вынікам гэтага візіту, які нарабіў шмат размоў у Беразяках, была мая адпраўка ў "Артэк" на дзве змены. На гэтым рэдакцыя не спынілася і ўгаварыла маю маці аддаць мяне ў дзіцячы дом, каб я змог скончыць школу. І ў канцы сакавіка 1953 года я апынуўся ў магілёўскім дзіцячым доме N 1..." **(З ліста І.Ласкова аўтару).**

Дзіцячы дом -- вось школа... Дзіцячы дом -- пачатак дарогі Віктара Казько, які таксама спярша пісаў па-руску. Прыклады можна доўжыць...

Пачатак, першыя крокі Івана Ласкова звязаны з рускай паэзіяй. У 1966 годзе ў Мінску выйшла кніга вершаў "Стихия". Яшчэ праз тры гады -- "Белое небо". Каб чытач зразумеў, што гэта зусім не кніжкі "местачковай" літаратуры па-руску, варта згадаць, дзе, у якім з перыядычных выданняў знайшлося месца і вершам беларускага хлопца -- у "Новом мире".

Што ж слова беларускае... Як вярнулася?.. Як прымусіла думку апекавацца родным, матчыным?..

"... Першая беларуская кніжка вершаў "Кружное лета". Я на яе вельмі разлічваў у прапагандысцкім сэнсе. Яна павінна была прагучаць заклікам да беларусаў павярнуцца тварам да беларускасці. Усё ж такі я быў не апошні хлопец на вёсцы, выдаў дзве кнігі на рускай мове, друкаваўся ў Маскве, Ленінградзе.

Вяртанне да роднай мовы павінна было прагучаць. Але гэта разумелі і ворагі беларускасці. Былі прынятыя меры. На кніжцы ўказалі тыраж 5 000. На самой жа справе выпусцілі толькі палову, 2 500. Увесь гэты тыраж быў накіраваны ва ўскраінныя вобласці Беларусі, г. зн. ва ўсе, апрача Мінскай. У Мінску кніжка не прадавалася -- г. зн. там, дзе найболей свядомага беларускага чытача. Я ўжо жыў тады ў Якуцку і нічога пра гэта не ведаў, а мой сябра, якога я прасіў... купіць "Кружное лета" для мяне, проста збіўся з ног, шукаючы зборнік. Спецыяльна ездзіў у Магілёў і яшчэ некуды.

Такім чынам, 90 працэнтаў беларускіх пісьменнікаў "Кружнога лета" не бачылі ў вочы. У друку былі тры рэцэнзіі: адна з Гомеля (не памятаю, чыя), адна з Магілёва (А.Пысіна), адна з Брэста (А.Разанава). Прытым адчувалася, што рэцэнзіі "стрыглі".

Адкрыўшы для сябе Беларусь, Іван Ласкоў трапіў у...Якуцію. На Поўнач завяла яго жонка -- Валянціна Гаўрылава, аднакашніца па вучобе ў Літаратурным інстытуце імя М.Горкага. Дарэчы, для Ласкова гэта была ўжо другая вышэйшая адукацыя. Да літінстытута паэт паспеў закончыць хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

І, канешне ж, у Якуціі працягваў Ласкоў пісаць па-беларуску. Таму за час яго якуцкага адрыву (на жаль, ужо вечнага) у Мінску выйшла і кніжка апавяданняў "Чароўны камень", і зборнік аповесцяў "На падводных крылах", і асобным выданнем паэма "Кульга". А яшчэ ж артыкулы, што друкаваліся ў "Літаратуры і мастацтве", часопісе "Полымя". А яшчэ ж процьма ненадрукаванага. Але жыццёвыя акалічнасці, складзеныя разам творчыя перапетыі прымушалі Івана Ласкова працаваць і на рускай мове. Пісьменнік шмат перакладае. У Маскве выходзяць перакладзеныя ім кнігі якуцкіх празаікаў. Займаецца Іван Ласкоў і крытыкай, публіцыстыкай. Збірае матэрыял для рамана пра лёсы беларускіх паўстанцаў-каліноўцаў пасля іх высылкі ў Сібір.

**А**ле этап, вяршыня -- нараджэнне "Кульгі"...

Іван Ласкоў пакінуў два варыянты "Кульгі". У 1974 годзе на рускай мове выйшла паэма "Хромец". А ў 1985-м у Мінску -- "Кульга"... Жывучы ў Туркменіі, недзе ў 1987 (ці на пачатку 1988) я прапанаваў вялікую рэцэнзію на "Кульгу" ў газету "Эдбуят ве сунгат". Размова ў творы -- пра Сярэднюю Азію, пра Тамерлана. Як быццам туркменскую пісьменніцкую газету павінна было б зацікавіць. Ды дарэмным быў мой клопат, антытамерланаўскі, антыдыктатарскі твор насцярожыў.

"...Праўда ж... у тым, што паэма скіравана не столькі супраць Тамерлана і яго абаронцаў, і тым болей не супраць Гітлера, які ў паэме з'яўляецца фігурай, што адцягвае ўвагу цэнзараў, а супраць Сталіна і сталінізму. Гэта добра адчулі тыя з маіх чытачоў, якія самі антысталіністы -- рускія паэты Прэлоўскі, Еўтушэнка і інш. Была такая старэнькая -- Неўская. У трыццатыя гады яна была адпраўлена ў калымскі лагер, дзе праседзела 18 год. Прачытаўшы "Хромца", яна адразу стала называць Сталіна "Тамерланам". "Хромца" Берта Аляксандраўна распаўсюджвала сярод сваіх таварышаў па рэпрэсіях. Мабыць, яны былі такой жа думкі. У кнізе Валкагонава "Триумф и трагедия" ёсць ліст аднаго з такіх масквічоў да Валкагонава, дзе стары піша пра сябе і сваю сям'ю: "Проклятый Тамерлан всё истребил, всё истоптал". Не магу праверыць, ці гэтае "проклятый Тамерлан" (маецца на ўвазе Сталін) ідзе ад маёй паэмы або ў нас з ім такая роднасць душ і поглядаў". **(З ліста Івана Ласкова аўтару).**

Як для мяне асабіста, дык "Кульга" ёсць адна з найцікавейшых, найярчэйшых паэм у беларускай паэзіі апошніх дзесяцігоддзяў. І можна толькі падзівіцца, што крытыка не піша пра гэта. Як быццам з дыктатурай змагаўся ва ўсе мінулыя гады кожны другі беларускі пісьменнік. Іван Ласкоў словам сваім змагаўся. І гэта відавочна.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## ЮРЫЙ ДАРАШКЕВІЧ — МАСТАК ПОСТМАДЭРНІЗМУ

# "ЧАША" ЯК МОДУЛЬ СУСВЕТУ...

Галерэя сучаснага мастацтва "Шостая лінія" ладзіць выставы выключна мастакоў постмадэрнізму, як заўжды, у памяшканні Беларускай політэхнічнай акадэміі. Вось і мінулая выстава Юрыя Дарашкевіча пад назвай "Версіі Грааля" прыцягнула ўвагу мастацтвазнаўцаў і паклоннікаў гэтага стылёвага напрамку сучаснага мастацтва.

Пасля заканчэння Беларускай акадэміі мастацтваў у 1985 годзе па спецыяльнасці "Дызайн" Ю.Дарашкевіч удзельнічае ў выставах з 1988 года, у тым ліку і ў міжнародных. Гэта ўжо трэцяя яго персанальная выстава. На працягу апошніх дзесяці гадоў ён распрацоўвае дзве тэмы: "Чашы" і "Бабы", у якіх праяўляецца яго мастакоўская філасофія і мастакоўскае крэда. На гэтую выставу ён прапанаваў толькі тэму "Чашы", але з новым зместам.

Увогуле яго разуменне тэмы "Чаша" дадзена ў маніфесце, афармленым ім па-дызайнерску (тэкст размешчаны так, што паўтарае абрыс пэўнай формы чашы) на плакаце, які вісіць на сцяне пры ўваходзе на выставу.

Для Дарашкевіча чаша -- гэта яго "прастора, замкнёная, самадастатковая і ў той жа час бясконцая, як кола, як круг, якім акрэслены край". Чаша -- гэта пасрэднік паміж ім і Сусветам, яна рэч і адначасова вобраз Сусвету. Пры стварэнні чашы ён напаўняе яе зместам, гэта значыць, улівае ў яе жыццё, і тады яна становіцца прычынай Бытнасці, каб пазней чаша стала вытокам, з якога чэрпаецца жыццёвая энергія, і з такім зместам яна становіцца вынікам. Адным словам, яна ідэя і матэрыял праяўлення мастакоўскай сутнасці, яго Бытнасці. Чаша -- модуль Сусвету і адначасова модуль лёсу асобнага чалавека, аб чым нам нагадвае выслоўе, што "кожны павінен выпіць сваю чашу (лёсу) да дна". Вось гэтае балансіруючае нібы на вагах хістанне зместу паняцця "Чаша", якое ўкладае ў яго мастак, адпавядае міфалагічнаму сэнсу і зместу тэрміна "Грааль". Таму і назваў ён сваю трэцюю выставу "Версіі Грааля", якая патрабуе яшчэ і тлумачэння тэрміна "Грааль" (святы Грааль). Пад ім разумеецца свяшчэнная пасудзіна (чаша), у якой знаходзіцца таямніца, нябачная не толькі людзям непрыстойным, але і перад бязгрэшнымі яна з'яўляецца ў няўстойлівым выглядзе ("і так і сяк"). Існуе шмат версій уласцівасцяў Грааля. Ён выпраменьвае дабро і мае лекарскія ўласцівасці, ён жа можа пакараць і памілаваць, нават насыціць прысмакамі як з рога дастатку. Згодна з хрысціянскімі апокрыфамі, Грааль -- гэта чаша з крывёю Хрыста, сабранай Іосіфам Арымафейскім, які здымаў з крыжа яго цела. Іосіф, стаўшы місіянерам, перанёс Грааль у Заходнюю Еўропу, але дагэтуль аспрэчваецца месцазнаходжанне яго. У пошуках Грааля адбываліся розныя прыгоды з рыцарамі сярэднявечча, і гэта надало яму яшчэ больш фантастычных уласцівасцяў.

Вось і наш мастак Ю.Дарашкевіч прапануе ў жывапісных палотнах і пластычных кампазіцыях свае версіі Грааля. На гэтай выставе чашы пададзены ў трох відах мастацтва: графіцы (манатыпіі), жывапісе і пластыцы.



Яго версіі Грааля праяўляюцца ў падкрэсліванні менавіта таямнічага свячэння вадкасці, што запаўняе чашы ў большай ці меншай ступені. Для гэтага мастак выкарыстоўвае метад высвятлення колеру на пэўных частках сценак пасудзін і блікамі святла, якое нібы падае з Космасу. Такім чынам мастак накіроўвае позірк гледача менавіта ў тое месца, дзе, на яго думку, і тоіцца тая жыццёвая сіла Грааля. І гэта свячэнне гледача зачароўвае. Ён адчувае, што адсюль на яго выпраменьваецца дабро.

Гэтая ж тэма Грааля, на мой погляд, менш праяўляецца [illegible] пластычных кампазіцыях "Чаша і [illegible] кропелек" (яна ўяўляе чатырохбаковы канічны аб'ём, устаноўлены на высокім адносна чашы пастаменце ў выглядзе звычайнага бервяна) і "Чаша-аб'ек[illegible]" (яна ўяўляе фрагмент расколатага [illegible]уннага гаршка з прабітымі ўздоўж зубчастага краю адтулінамі, абведзенымі залацістай фарбай, як і ўвесь зубчасты абрыс). Пры асаблівым намаганні фантазіі глядач і тут можа ўбачыць таямніцу Грааля.

Вольная фантазія мастака праявілася пры трактоўцы версіі сувязі чашы Грааля з тэмай крыві Хрыста, сабранай Іосіфам Арымафейскім пасля зняцця цела з крыжа. Гэта бачна ў жывапісна і пластычна распрацаванай кампазіцыі 1996 года "Датыканне да чашы". У ёй мастак аб'яднаў пры дапамозе дрота залацістага колеру жывапісную зялёную выяву чашы на палатне з уяўным вобразам зялёнага драўлянага крыжа, выйшаўшы такім чынам з плоскасці ў прастору. Вобраз крыжа ўтвараецца за кошт высокага афарбаванага зялёнага слупа (на ім намаляваны залацісты крыжык з кропелек), замацаванага на нізкім неафарбаваным драўляным пастаменце з металічнымі перакрыжаваннямі знізу. А залацістую лінію абрыса з вусця зялёнай чашы, намаляванай на палатне, Дарашкевіч арганічна падоўжыў у прастору, прымацаваўшы да яе дрот залацістага колеру, якім нібы прыцягнуў крыжавы слуп да жывапіснай выявы. Чалавеку, які не ведае версій Грааля, такая кампазіцыя здаецца незразумелай.

На ўзроўні падсвядомасці Дар[illegible]віч успрыняў паняцце чашы праз архаічныя пратапласты керамікі, таму пераважная частка формаў, колераў і аздоб яго чашаў ідзе менавіта ад першабытн[illegible] керамічных аналагаў, дзе пераваж[illegible]эх-рыста-зялёна-жоўта-сінія палівы. Гэта наглядна праявілася ў жывапісных кампазіцыях "Чаша, закапаная ў глебу", "Чаша з меандрам", "Чаша вялікая", "Чаша-амфара", "Чаша, знойдзеная ў лесе" і ў кампазіцыях з выявамі розных чаш, пазначаных нумарамі і выкананымі ў складанай тэхніцы манатыпіі.

Мастак дасканала валодае не толькі ведамі аб псіхалагічным уздзеянні пэўных колераў на гледача, але і выдатна выкарыстоўвае эстэтычныя ўласцівасці колераў. І таму колер у яго жывапісных палотнах мае большае значэнне, чым пластыка формаў. Калі глядзіш на палотны Ю.Дарашкевіча, міжволі ўзнікае ўзрушаная думка: "Як прыгожа!" Прыгожымі асабіста мне ўяўляюцца карціны "Чаша, закапаная ў глебу", "Чаша, знойдзеная ў лесе", "Чаша з меандрам", "Чаша з галінай". Толькі адна яго кампазіцыя "Чаша, напоўненая да краёў" напісаная як шкляная пасудзіна, скрозь сценкі якой праглядаецца таямнічае свячэнне Грааля, хрысціянскі пачатак якога падкрэслены шэрагам крыжыкаў уздоўж вусця (атрымала 1-ю прэмію на выставе "Белы арт-фестываль" у 1995 годзе).

Сваімі творамі мастак падкрэслівае шырокі змест паняцця "Чаша". У ёй Дарашкевіч адлюстроўвае мадэль Сусвету, і тут жа ён імкнецца зазірнуць за край гэтага Сусвету, як за край вусця чашы. Але марна... Невядома, куды падаюць кроплі з нахіленай у імглістай прасторы чашы ў форме біблейскай лаdensi вытанчаных прапорцый, якую мы бачым у карціне "Чаша, знойдзеная ў лесе". Кроплі патанаюць у нязведаных прасторах. І версіі чашы Грааля, якія дэманстраваў мастак на выставе, не раскрываюць яе таямніцы. Між тым, выстава сведчыць, што Ю.Дарашкевіч -- таленавіты мастак з арыгінальным уласным бачаннем Сусвету і непаўторным творчым тварам.

Нягледзячы на пэўную зашыфраванасць зместу твораў Ю.Дарашкевіча, яны высока ацэнены аматарамі мастацтва і набыты многімі галерэямі і калекцыянерамі свету ў Іспаніі, Галандыі, Нямеччыне. Беларускія музеі яго творы пакуль не набылі, відаць, сапраўды "няма прарока ў сваёй Айчыне".

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Юрый ДАРАШКЕВІЧ на сваёй выставе; "Чаша, знойдзеная ў лесе" і "Чаша-аб'ект".**



## ТЫДЗЕНЬ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ






**У Мінску ў Доме літаратара адбылося адкрыццё "Тыдня дзіцячай кнігі". У ім прынялі ўдзел многія вядомыя дзіцячыя пісьменнікі Беларусі, паэты і кампазітары, якія пішуць для дзяцей. Гучалі беларускія вершы ў выкананні аўтараў.**

**НА ЗДЫМКАХ: на сцэне мастацкі калектыў "Ліхтарык" дзіцячага сада N 565; юныя чытачы гутараць з паэтам Васілём ЖУКОВІЧАМ, кампазітарам Святланай ГАЛКІНАЙ і паэтам Уладзімірам КАРЫЗНАМ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

ШТО МЫ СТРАЦІЛІ?

# КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ ЭКСПАНАТЫ СЯМІ ВІЦЕБСКІХ МУЗЕЯЎ?

Вядома, што да часу ўтварэння БССР у Віцебску дзейнічалі шэсць наступных музеяў:

**Віцебскі губернскі.** Ён быў заснаваны ў канцы 1918 года, а адкрыты ўжо пасля ўтварэння БССР, у чэрвені 1919 года. Аснову фондаў склалі рэчы і творы мясцовай старасветчыны і мастацтва, сабраныя пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі па маёнтках і зачыненых храмах; зброя былога "Віленскага Вайсковага збору", прывезеная ў музей у 1914 годзе, а таксама экспанаты з уласнага музея А. Брадоўскага, які пераехаў у Віцебск з Вільні ў 1914 годзе.

**Віцебскі царкоўна-археалагічны музей**, заснаваны ў 1893 годзе з старажытных уніяцкіх твораў мастацтва, сабраных пасля закрыцця ў Беларусі уніяцкіх цэркваў, і рэчаў археалагічных, якія перадалі мясцовыя археолагі пасля археалагічных раскопак на Віцебскім замчышчы.

**Прыватны музей В. Федаровіча** складалі творы старажытнага беларускага мастацтва, пераважна дэкаратыўна-прыкладнога.

**Прыватны музей А. Сапунова** таксама ўтрымліваў творы беларускай старасветчыны, археалагічныя экспанаты і каштоўны архіў са старажытных грамат і прывілеяў, што мелі адносіны да Віцебшчыны.

**Музей Віцебскай архіўнай камісіі** ўтрымліваў пераважна рукапісныя і архіўныя фонды.

Шостым быў **Віцебскі музей сучаснага мастацтва,** створаны, як і губернскі, у 1918 годзе.

Найкаштоўнейшыя старажытныя экспанаты з гэтых шасці музеяў у колькасці 30 тысяч адзінак склалі аснову Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея, заснаванага ў кастрычніку 1924 года і адкрытага ў красавіку 1925 года. Сярод экспанатаў былі археалагічныя знаходкі з Віцебскага замчышча, калекцыі старажытнага мастацкага шкла, фарфору і фаянсу, гадзіннікаў, мэблі, слуцкіх паясоў, дываноў, габеленаў; скульптуры і жывапісу, сярод іх абразоў; старажытнай зброі, у тым ліку паўстанцаў К. Каліноўскгаа; калекцыя сцягоў сярэднявечных рамесніцкіх цэхаў; багаты нумізматычны і сфрагістычны кабінет, мошчы Ефрасінні Полацкай; карціны рускіх і беларускіх мастакоў І. Айвазоўскага, І. Рэпіна, М. Дабужынскага, Ю. Пэна, С. Юдовіна, І. Левітана, У. Макоўскага, В. Паленава, Б. Кустодзіева, І. Хруцкага, П. Канчалоўскага, а таксама мастакоў-авангардыстаў М. Шагала, К. Малевіча, К. Кандзінскага, Э. Лісіцкага, Р. Фалька, І. Машкова, Н. Альтмана, М. Ларыёнава, П. Кузняцова, М. Когана, І. Пуні, Д. Бурлюка; тут жа была багатая на старадрукі і рукапісы бібліятэка (30 тысяч тамоў).

У 1941 годзе больш каштоўныя экспанаты і кнігі эвакуіравалі ў Саратаўскі абласны музей краязнаўства, толькі нязначную частку з іх вярнулі, але старажытных экспанатаў у музеі засталося не больш дзвюх тысяч. Куды падзеліся астатнія, невядома.

Сёмы музей **называўся антырэлігійным** і быў адкрыты напярэдадні другой сусветнай вайны ў 1940 годзе. У склад яго ўвайшлі экспанаты з царкоўнага аддзела Віцебскага культурна-гістарычнага музея, з фондаў Віцебскага заалагічнага музея, а таксама творы культавга прызначэння, сабраныя з зачыненых цэркваў Віцебшчыны. Музей спыніў існаванне ў гады нямецкай акупацыі; лёс яго экспанатаў пакуль не даследаваны. Трэба шукаць, куды трапілі яго экспанаты.

Варта падрабязней спыніцца на гісторыі Віцебскага музея сучаснага мастацтва. Ён узнік у 1918 годзе па ініцыятыве Марка Шагала -- віцебскага мастака і адначасова ўпаўнаважанага па справах мастацтваў па Віцебскай губерні (у Віцебскім абласным архіве захоўваецца мандат N 3051, выдадзены А. Луначарскім у 1918 годзе на яго імя) пры арганізаванай ім жа ў 1918 годзе Народнай мастацкай школе новага рэвалюцыйнага ўзору. Пазней мастак пісаў: "...оторвавшись от палитры, я умчался в Питер, Москву и Училище воздвигнуто в 1918 г. В стенах его 500 юношей и девушек... профессоровали кроме меня -- Добужинский, Пуни, Малевич, Лисицкий, Пэн и я". Пасля стварэння школы М. Шагал звярнуўся з заклікам да мастакоў усёй Расіі праз газету "Искусство Коммуны" (22.12.1918 г.) з заклікам прыехаць у віцебскую правінцыю з мэтай стварэння рэвалюцыйнага мастацтва...

І мастакі адгукнуліся, прыехалі з Кіева, Піцера, Масквы -- К. Малевіч, В. Ермалаева, І. Пуні, Эль Лісіцкі, Х. Суцін, Р. Фальк, А. Купрын, пазней далучыліся Н. Альтман, М. Татлін і інш.

Пашырэнню колькасці экспанатаў Музея сучаснага мастацтва паспрыяла і арганізаваная М. Шагалам у 1919 годзе першая на тэрыторыі былой царскай імперыі выстава сучаснага мастацтва, у якой прынялі ўдзел, акрамя вышэйзгаданых мастакоў, Д. Бурлюк, М. Ларыёнаў, І. Машкоў, П. Канчалоўскі і інш. Але стылістыка супраматызму К. Малевіча была непрымальная для выхаванага на рэалістычным мастацтве М. Шагала. І 29.7.1920 года ён падаў заяву аб звальненні ў сувязі з пераездам у Маскву. Праз 3 гады пасля ад'езду Шагала частку твораў музея (у 1922 годзе яго закрылі) адправілі ў Піцер і Маскву, а 31 карціну так званага "левага накірунку" перадалі 16.09.1925 года Віцебскаму губернскаму музею; 3.11.1925 года музею перадалі "для аховы" твор В. Кандзінскага "Уваход". Цяпер жа ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі няма ніводнага твора мастакоў-авангардыстаў 20-х гадоў. Іх яшчэ трэба адшукаць у музейных сховішчах Расіі, як і большасць экспанатаў былога Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея, на мізэрных рэштках экспанатаў якога быў утвораны пасля другой сусветнай вайны Віцебскі абласны краязнаўчы музей.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

*ПРЭМ'ЕРА Ў ЦЫРКУ*



**У Мінскім дзяржаўным цырку ідзе трэцяя праграма сезона. У новым прадстаўленні мінчане бачаць атракцыён з мядзведзямі пад кіраўніцтвам Уладзіміра ДЗЯРАБКІНА, конны нумар "Лацінаамерыканскія гульні" пад кіраўніцтвам Эльбруса ПЛІЕВА, выступленне арыгінальнага жанглёра-ілюзіяніста з абручамі заслужанага артыста Расіі Уладзіміра КУЛАКОВА. У праграме таксама нумары акрабатаў, эквілібрыстаў, клоунаў, дрэсіраваных галубоў, спаніэляў і іншыя атракцыёны.**

**НА ЗДЫМКАХ: конны нумар "Лацінаамерыканскія гульні" пад кіраўніцтвам Эльбруса ПЛІЕВА; дрэсіраваныя галубы Настассі СЦІХАНОЎСКАЙ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



# У ШТО ЎКЛАДЗЕНА ДУША...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

"...Усё, што напісана пра Тамерлана, (тут і далей падкрэслена І.Ласковым. -- **А.К.**) **не** выдумана мной, каб падагнаць пад Сталіна. Гэта -- **тыпалогія** тыранства. Кожны тыран знішчае працаўнікоў і невінаватых людзей, кожны тыран стварае ў дзяржаве лад даносаў і рэпрэсій, кожны тыран марыць аб вечнай славе, і кожнага тырана развенчваюць. І ў той самы час у кожнага тырана застаюцца прыхільнікі, што дамагаюцца і праз вякі маральнай рэабілітацыі злачынцы. Адсюль і неагітлерызм, і неатамерланізм, што мае месца ва Узбекістане, і неасталінізм – да яго мы, можа, яшчэ дажывем. І я лічу, што мая паэма яшчэ не раз спатрэбіцца людзям у барацьбе супраць тыранаў". **(З ліста І.Ласкова аўтару).**

Пасля 1991 года Ласкоў на Беларусь ужо не прыязджаў. Быў страшна загружаны працай. Займаўся кнігай ("...у кожнага свая дзялянка. Апошнім часам, напрыклад, я вельмі шмат працую над тым, каб давесці справядлівасць свае гіпотэзы, выказанай у артыкуле "Племя пяці родаў" (угра-фінскае паходжанне летапіснай Літвы). Матэрыялу назапашана ўжо шмат, але праца яшчэ далёка не скончана"). І яшчэ згадка: "Мая кніга пра беларускую фінавугоршчыну ў чарнавіку напісана. Недзе 700 старонак на машынцы..." Можа здарыцца, што чытач усё ж атрымае гэтую кнігу... Можа здарыцца...

Напрыканцы жыцця (а памёр Іван Ласкоў 18 чэрвеня 1994 года) пісьменніка чакала новае выпрабаванне. Наш зямляк, збіраючы матэрыялы пра рэпрэсіраваных беларусаў, прабіўся ў архіў КДБ Якуцкай АССР. Там і пазнаёміўся са справай Платона Айунскага, пачынальніка якуцкай савецкай літаратуры, які таксама стаўся ахвярай. Праўда, як высветлілася, "герой" працаваў на КДБ ды "здаў" шмат каго з відных дзеячаў Якуціі. Пра гэта Ласкоў і напісаў дакументальную праўду (артыкул "Драма паэта" ў газеце "Молодежь Якутіі", 9 ліпеня 1993 года). І тут усё пачалося. Пачалася траўля. Мусіць, не было газеты, якая б не друкавала гнеўных лістоў з месцаў. З пісьма ў газету "Молодежь Якутии": "27 ліпеня адбылося расшыранае пасяджэнне праўлення Саюза пісьменнікаў Якуціі, на якім была ўсебакова абмеркавана апублікаваная ў вашай газеце серыя артыкулаў І.Ласкова "Драма паэта", прысвечаная апошнім дням П.А.Айунскага... Аўтар здзекліва піша, што ён у турме складаў свае паказанні, "нібыта працаваў над апошнім томам сваіх твораў". Якое кашчунства! І гэта піша сярэдняй рукі літаратар аб вядомым пісьменніку, вялікім грамадскім і дзяржаўным дзеячы... Мы з даным артыкулам Ласкова знаёмы даўно: гады два таму назад пад відам рэцэнзіі на кнігу І.Нікалаева, І.Ушніцкага "Цэнтральная справа" ён у часопісе "Полярная звезда" без ведама рэдкалегіі, тайна спрабаваў працягнуць яе. Тады гэтая акцыя ў яго не прайшла -- члены рэдкалегіі адзінадушна адхілілі яе як яўна паклёпніцкую і прыпынілі публікацыю. Але, як паказвае час, не астудзіў свой "выкрывальніцкі" пыл І.Ласкоў, які даўно і сістэматычна займаецца ганьбаваннем лепшых прадстаўнікоў якуцкага народа (некалі за падобныя спробы ён быў асуджаны на сакратарыяце праўлення СП РСФСР)".

...Іван Ласкоў надарваў сваё сэрца. Загубіў сябе ў барацьбе. Іначай, відаць, не мог. Але ж хіба так проста ва ўсім разабрацца -- трэба ахапіць усё тое, што часам і нельга, немагчыма ахапіць. Не кідаючыся ні ў якія параўнанні, можна заўважыць і наступнае. Звяргаць з п'едэстала прасцей, чым пражыць пакручастым жыццём звергнутых. Мажліва, трэба было б мець і сапраўды якуцкі нацыянальны менталітэт, якуцкую нацыянальную свядомасць, каб не чапаць памяць Айунскага. Па-першае, класік літаратуры, светлы нацыянальны вобраз. Па-другое, час быў страшна жорсткі.

Але ж і змагацца з тым, хто сказаў праўду...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*СПОРТ*

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. У Стакгольме завяршыўся чэмпіянат свету. З беларускіх спартсменаў найбольш удала выступіў Дзмітрый Маркаў. У скачках з шастом ён заняў першае месца, апярэдзіўшы моцных расійскіх спартсменаў. Дзмітрый Маркаў паказаў адзін з лепшых вынікаў у сёлетнім сезоне: 5 метраў 85 сантыметраў.

СКАЧКІ Ў ВАДУ. Многія кандыдаты на паездку на Алімпійскія гульні ў Атланту прынялі ўдзел у міжнародным турніры, што прайшоў у Санкт-Пецярбургу. Беларускі спартсмен Сяргей Кудрэвіч заваяваў тут "бронзу". Дарэчы, гэтыя спаборніцтвы былі адным з этапаў розыгрышу прыза Гран-пры.

БІЯТЛОН. Узлёты і падзенні. Так коратка можна падвесці вынікі выступленняў на міжнародных спаборніцтвах беларускіх біятланістаў у завершаным сезоне. Сярод жанчын Святлана Парамыгіна ўвайшла ў першую дзесятку мацнейшых спартсменак свету, а мужчынская зборная па суме заняла шостае месца ў розыгрышы Кубка Нацый.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 330. Падпісана да друку 25. 3.1996 г.